# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

14 САКАВІКА 2003 г. № 11/4197 КОШТ 520 РУБ.


АНОНС!

**МЫ — БЕЛАРУСЫ!**

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

*Начныя ўспаміны* **Івана ШАМЯКІНА**

9,14-15



*Праца Д. ЗАЙФЕРТА —* адмысловы ўзор стылізацыі, што злучае стыхію інсітнага мастацтва і хрэстаматыйную пастаральную ідылію

12



ПРЭМ'ЕРЫ



# БЫЛІ Ў АДАМА ДВА СЫНЫ: АВЕЛЬ ДЫ КАІН...

***Далей сюжэт п'есы "Згублены рай" Андрэя КУРЭЙЧЫКА, пастаўленай на Купалаўскай сцэне, ідзе зусім не па біблейскіх канонах. А на падмостках Тэатра беларускай драматургіі... ідзе другая п'еса таго ж аўтара... НА ЗДЫМКУ: артыст Мікалай КІРЫЧЭНКА ў ролі Адама***

Фота Кастуся ДРОБАВА

чытайце на стар. 10-11

# БЕРАГІНЯ БЕРАЖЭ БЕЛАРУСЬ

*Паэтычным імем "Берагіня" ахрысціў этнограф Мікола КОЗЕНКА фальклорны гурт Мётчанскай сярэдняй школы Барысаўскага раёна. Пра слынны калектыў, яго набыткі і планы*

чытайце на стар. 4-5



## КОЛА ДЗЁН

***Беларусь і Расія яшчэ раз пацвердзілі сваё рашэнне аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі Саюзнай дзяржавы. Згодна з Дагаворам аб стварэнні Саюза Беларусі і Расіі, з 1 студзеня 2005 года ў Беларусі будзе мець хаджэнне расійскі рубель, а з 1 студзеня 2008 года адбудзецца пераход на адзіную валюту. На шляху да дасягнення гэтых вынікаў неабходна зрабіць яшчэ два важныя крокі. З ліпеня 2003 года плануецца ўвядзенне ў безнаяўнае абарачэнне расійскага і беларускага рублёў пры разліках суб'ектаў гаспадарання дзвюх краін. А са студзеня 2004 года мяркуецца пачынаць жорсткую прывязку беларускага рубля да расійскага.***

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Урад нашай краіны прыняў рашэнне з 1 сакавіка павысіць заробкі для бюджэтнікаў і работнікаў арганізацый, што атрымліваюць дзяржаўныя датацыі. У прыватнасці, тарыфная стаўка 1 разраду ўзрасце з 25000 да 26500, а базавая велічыня — з 12000 да 13300 рублёў. Адначасова з павышэннем заробкаў у 1,1 раза ўзрастуць дапамогі па беспрацоўі і стыпендыі.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

У мінулым годзе наша краіна гандлявала са 166 дзяржавамі свету: тавары пастаўляліся на рынкі 124 дзяржаў, імпартавалася прадукцыя з 152. Аб'ём знешняга гандлю таварамі склаў 170777 мільёнаў долараў і ў параўнанні з 2001 годам павялічыўся на 9,3 працэнта. Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі нашай краіны ў мінулым годзе былі Расія — 57,9 працэнта да ўсяго аб'ёму тавараабароту, Германія — 6,1, Латвія, Украіна і Вялікабрытанія — на 3,3, Польшча — 2,9, Літва, Нідэрланды — на 2,1, Італія — 2 працэнты.

### ПОСПЕХ ТЫДНЯ

Пасля спаборніцтваў на этапах Кубка свету і чэмпіяната Еўропы дамоў вярнулася нацыянальная каманда па біятлоне. У гэтым годзе як ніколі нашы біятланісты выступілі добра, калі не сказаць што выдатна. Так, на этапах Кубка свету ў індывідуальных відах праграмы 6 медалёў заваявалі Уладзімір Драчоў, 3 — Алена Хубрылава, 2 — Алег Рыжанкоў, 1 — Аляксей Айдараў. У эстафетных гонках чатыры разы мужчыны (А. Айдараў, У. Драчоў, Р. Валіулін, А. Рыжанкоў) і тройчы жанчыны (Л. Яфрэмава, В. Назарава, К. Зікунова, Л. Ананька, А. Зубрылава, Л. Арлоўская) падымаліся на п'едэстал. На чэмпіянаце Еўропы нашы спартсмены атрымалі 1 залаты, 7 сярэбраных і 5 бронзавых медалёў.

### ВЫНІКІ ТЫДНЯ

З сакавіка закончыўся тэрмін падачы дэкларацый аб сукупным гадавым даходзе. Сёлета дэкларацый падалі амаль у два разы меней, чым летась — 144799. Гэта тлумачыцца тым, што летась каля 80 тысяч індывідуальных прадпрымальнікаў працавалі на стаўцы адзінага падатку і таму часта такіх прадпрымальнікаў дэкларацыі аб сукупным гадавым даходзе не падавалі. Нягледзячы на тое, што тэрмін падачы дэкларацый ужо скончыўся, да 15 красавіка можна падаць удакладненую дэкларацыю. Тэрмін выплаты налічанага па выніках дэкларавання сукупнага даходу — да 15 мая.

### ЛЯКАРСТВА ТЫДНЯ

ААТ "Белмедпрэпараты" выпусціла першую прамысловую серыю айчыннага прэпарата "Заміцыт" для лячэння СНІДу. Ён з'яўляецца аналагам дарагіх замежных сродкаў, і, дзякуючы новай экалагічнай тэхналогіі вытворчасці, наш прэпапат у 3—5 разоў таннейшы. Створана лякарства ў рамках дзяржаўнай навукова-тэхнічнай праграмы "Лекавыя сродкі" сумесна з навукова-фармацэўтычным цэнтрам ААТ "Белмедпрэпараты" і Інстытутам біялагічнай хіміі Нацыянальнай акадэміі навук.

### ПАНІЖЭННЕ ТЫДНЯ

Да ўвядзення летняга раскладу Беларускай чыгункай прынята рашэнне знізіць у сярэднім на 18 працэнтаў тарыфы на праезд у фірменных цягніках "Мінск—Масква", "Мінск-Санкт-Пецярбург". Цяпер за білет у Маскву ў купэйным вагоне трэба будзе заплаціць 57170 рублёў, а ў Санкт-Пецярбург — 62040 рублёў.

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

У гэтым годзе ў нашай краіне плануецца завяршыць абсталяванне жылых дамоў, якія налічваюць 80 кватэр і больш, прыборамі ўліку і рэгулявання цяпла. Устаноўка прыбораў будзе праводзіцца за кошт дзяржавы.



## ДАНІНА ПАВАГІ

# УШАНАВАЛІ ВІНЦЭНТА ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА



4 лютага споўнілася 195 гадоў з дня нараджэння Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча — паэта, драматурга і акцёра. Трохі запознена, 4 сакавіка, у Беларусі гэтая дата была адзначана вечарынай у Доме літаратара. Арганізаваў яе вядомы навуковец Я. Янушкевіч, а вёў намеснік старшыні СБП А. Кудравец. Пра шматгранную асобу беларускага класіка гаварылі пісьменнікі А. Мальдзіс, У. Содаль і В. Гіруць-Русакевіч. На вечарыне прысутнічалі нашчадкі В. Дуніна-Марцінкевіча: Станіслаў Плаўскі, Тадэвуш Крыжаньскі, Барбара Чарнавецка-Крыжаньска, Богдан і Бартош Кавaліньскія. Яны падзяліліся сваімі ўражаннямі ад наведвання родных мясцін, расказалі пра сябе. У выкананні дыпламантак міжнародных конкурсаў Т. Цыбульскай і С. Гутаравай прагучалі песні на словы Я. Чачота (муз. С. Манюшкі). У зале панавала атмасфера шляхетнасці і лёгкай настальгіі па даўніх часах.

**С. Я.**

## АКТУАЛЬНА

# ПРЭМІІ САЮЗНАЙ ДЗЯРЖАВЫ

***Пытанні прысуджэння прэмій Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва як важнейшага фактару развіцця культурных сувязей паміж народамі Беларусі і Расіі абмяркоўваліся на прэс-канферэнцыі, якая прайшла ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы 11 сакавіка.***

Удзел у ёй прынялі: Сяргей Калашнікаў — намеснік Дзяржаўнага сакратара, член Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы, Уладзімір Рылатка — намеснік міністра культуры РБ, Лілія Ананіч — намеснік міністра інфармацыі РБ, Сяргей Шухно — кіраўнік Прадстаўніцтва Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы ў Мінску. Адбылася зацікаўленая гутарка наконт парадку прысуджэння прэмій і грамадскага рэзанансу, выкліканага іх уручэннем. Як вядома, упершыню прэміі Саюзнай дзяржавы былі ўручаны ў верасні 2002 года ў Мінску.



Лаўрэатамі іх сталі: народны артыст Расіі Аляксей Пятрэнка, беларускі драматург, заслужаны дзеяч мастацтваў РБ Аляксей Дудараў, народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Цяпер ідзе вылучэнне кандыдатаў на атрыманне прэміі. Яно закончыцца да канца лістапада 2003 года, а ў снежні будуць названы лаўрэаты прэміі Саюзнай дзяржавы. Наступнае прысуджэнне гэтых прэмій адбудзецца ў 2004 годзе і будзе прымеркавана да міждзяржаўнага свята — Дня ўз'яднання народаў Беларусі і Расіі (2 красавіка). Кандыдатамі на атрыманне прэмій Саюзнай дзяржавы вылучаны ў Расіі: кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Уладзімір Дашкевіч, кінарэжысёр, сцэнарыст і аператар Тофік Шахвердзіеў. Прэміямі адзначаюцца творы, якія робяць вялікі ўнёсак ва ўмацаванне адносін братэрства, дружбы і ўсебаковага супрацоўніцтва паміж дзяржавамі — удзельніцамі Саюзнай дзяржавы. Значная роля ў вылучэнні кандыдатур адводзіцца творчым калектывам, але вырашае ўсё экспертны савет, у які ўваходзяць тыя, хто здольны назваць лепшага з лепшых і дастойнейшага з дастойных...

**С. Я.**

**Фота К. ДРОБАВА**

## ПОШТА

# ...ПРА ЗЕМЛЯКА

З задавальненнем прачытаў у "ЛіМе" ад 10 студзеня г.г. інтэрв'ю рэдактара аддзела публіцыстыкі Міхала Тапочкі з прэзідэнтам Нацыянальнай акадэміі навук Міхаілам Мясніковічам.

Дзякуй, што газета паднімае вельмі важныя пытанні нашага жыцця. Сапраўды, за апошні час бачныя змены ў Нацыянальнай акадэміі навук.

Я — не навуковец, былы вайсковец. Аддаў абароне Айчыны дзесяцігоддзі, аб'ездзіў, як кажуць, паўсвета. Скажу шчыра, што я і тысячы выпускнікоў Сноўскай сярэдняй школы Нясвіжскага раёна ганарымся, што яе скончыў і Міхаіл Мясніковіч.

Яшчэ калі я вучыўся ў 1950-х гадах,школа была адной з лепшых у рэспубліцы, як і тутэйшы калгас (цяпер аграфірма "Сноў"). Раскажу адзін выпадак. Падчас маёй вучобы ў Маскоўскім камандным агульнавайсковым вучылішчы імя Вярхоўнага Савета РСФСР у Падмаскоўі, мы — курсанты — выконвалі нейкую работу. Да нас падышоў сам Мікіта Хрушчоў. З кожным вітаўся, пытаўся адкуль хто родам. Калі я сказаў, што з Беларусі, са Снова, з калгаса імя Калініна, Мікіта Сяргеевіч ажывіўся: "Гэта там, дзе старшынёй Аляксанкін?" Было нечакана і прыемна гэта чуць.

І цяпер у гаспадарцы справы ідуць добра. Летась ураджайнасць зернавых з гектара склала 82 цэнтнеры, а па словах кіраўніка аграфірмы Героя Беларусі Міхаіла Карчміта, можна атрымліваць да 100 цэнтнераў. Дарэчы, некалькі гадоў таму Аляксандр Лукашэнка назваў "Сноў" гаспадаркай XXI стагоддзя.

З нашай школы выйшла ў свет нямала вядомых людзей: былы міністр культуры і друку, пасол Беларусі ў Румыніі Анатоль Бутэвіч, заслужаны артыст рэспублікі Анатоль Падгайскі, алімпійскі чэмпіён Рамуальд Клім, заслужаны дзеяч мастацтваў мастак Яўген Ждан, заслужаны работнік пераапрацоўчай прамысловасці Раман Капытка і многія іншыя.

Часта даводзіцца быць на радзіме. Тут мноства жывёлагадоўчых ферм, птушкаферм, мясаперапрацоўчы камбінат. Не забываюць пенсіянераў: на кожнае свята, юбілей выдаюць прадукты. У Снове — прыгожыя шматпавярховыя дамы, дагледжаныя дарогі, Дом культуры, санаторый. У пасёлку — дзве царквы, касцёл.

...Зноў і зноў перачытваў інтэрв'ю аб нашай Нацыянальнай акадэміі навук. Чытаў з верай у будучыню, з верай, што і ў сельскай гаспадарцы будуць зрухі. Такія, як на радзіме прэзідэнта НАН.

**Станіслаў ФЯНЬКО,**
**ветэран Узброеных Сіл**

***У сакавіку 2003 года адзінаму ў краіне часопісу, які асвятляе пытанні прафесійнага мастацтва, спаўняецца дваццаць гадоў.***

***Для асобнага чалавека гэта — узрост юнацтва.***

***Для рэспубліканскага часопіса — узрост сталасці.***

***Два гэтыя дзесяцігоддзі былі часам пошукаў, знаходак, адкрыццяў, сталення. "Мастацтву" заўсёды шанцавала на асоб. Яркіх, маштабных, значных. Такімі заўсёды былі і галоўныя рэдактары выдання, і супрацоўнікі рэдакцыі, і яго актыўныя аўтары.***

# ЧАС ПОШУКАЎ І СТАЛЕННЯ

Міхась Раманюк... Стваральнік і першы рэдактар часопіса. Унікальны чалавек, мастацтвазнавец, этнограф, мастак, які абышоў і аб'ездзіў усю Беларусь, збіраючы і адкрываючы здзіўленаму беларускаму і сусветнаму грамадству сапраўдныя скарбы і рарытэты — і перш-наперш багацейшую, непаўторную калекцыю народнага адзення. Навуковая і мастацтвазнаўчая дзейнасць Міхася Раманюка шмат у чым паўплывала на ўспрыманне народнага адзення як высокага ўзору нацыянальнага мастацтва, вартага захаплення і вывучэння, на абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Бясспрэчна, некалі пра Раманюка напішуць не адну кнігу і на аснове архіва навукоўца будзе выдадзены не адзін альбом.

Маштабная, абаяльная асоба, неверагодна добразычлівы чалавек, Міхась Фёдаравіч здолеў сабраць і згуртаваць вакол сябе калектыў аднадумцаў, людзей, адданых нацыянальнаму мастацтву. Міжволі думаецца, што тая светлая ўзнёслая аўра, неаддзельная ад вобраза Міхася Раманюка, і сёння прысутнічае ў "Мастацтве", і сёння жывіць новымі думкамі і ідэямі, і абараняе часопіс ад раўнадушша і нядобразычлівасці.

Ёсць пэўная заканамернасць у тым, што на працягу ўсёй гісторыі "Мастацтва" на чале часопіса заўсёды стаялі асобы, моцна знітаваныя сваёй творчасцю і сваёй дзейнасцю з народным светаадчуваннем, народным успрыманнем рэальнасці. І гэтая крэўная повязь рабіла выданне патрэбным самай шырокай аўдыторыі і была зарукай яго жыццястойкасці. Яўген Сахута... Вядомы навуковец, доктар мастацтвазнаўства, старшыня Саюза народных майстроў, аўтар шматлікіх кніг, альбомаў, прысвечаных народнаму мастацтву і ягоным асобным галінам — кераміцы, кавальству, ткацтву, саломапляценню, мастацкай апрацоўцы дрэва. На працягу шасці гадоў ён узначальваў "Мастацтва". Пры ім выданне развівалася далей, пашырала свае далягляды і свой аўтарытэт.

Аляксей Дудараў... Ён прыйшоў у часопіс на пачатку 90-х гадоў. Аўтарытэт вядомага драматурга і тэатральнага дзеяча, абаяльнасць таленту стваральніка "Радавых" і "Белых росаў", "Князя Вітаўта" і "Чорнай панны Нясвіжа" няўлоўным флёрам ахіналі часопіс. Першая палова 90-ых гадоў супала для "Мастацтва" з тым перыядам, калі Рэспубліка Беларусь зрабілася самастойнай суверэннай дзяржавай, з перыядам набыцця незалежнасці, з паскарэннем працэсаў фарміравання нацыянальнай самасвядомасці, з усведамленнем прыярытэту нацыянальных каштоўнасцей. Калі надзеі і мары грамадства былі самымі смелымі, запатрабаванні — самымі высокімі. Той, хто дыхаў паветрам свабоды, той, хто зведаў узлёты духу, не забудзе гэтага ніколі. Невыпадкова ў гісторыі часопіса гэты перыяд быў часам творчага росквіту і стабільнасці.

Законы развіцця сцвярджаюць: перыяды ўздыму і спаду ў жыцці грамадства і асобнага чалавека чаргуюцца. Апошнія некалькі гадоў былі, як сведчаць нашы даўнія аўтары, нялепшымі ў жыцці "Мастацтва". Стомленасць грамадства, расчараванасць у пэўных ідэях і надзеях нараджалі адчуванне стагнацыі. Вымушаныя змяншэнне аб'ёму выдання, змяншэнне яго перыядычнасці адразу ж адмоўна адбіліся на тыражы, на чытацкай цікавасці. Асветніцкаму аналітычнаму беларускамоўнаму часопісу, які адлюстроўвае лепшыя ўзоры элітарнага мастацтва і адрасаваны найперш культурнай эліце грамадства, аказалася зусім не проста канкураваць на інфармацыйным рынку са шматлікімі камерцыйнымі выданнямі, магчыма, не такімі змястоўнымі, але адрасаванымі непараўнальна больш шырокай аўдыторыі.

Мінулы год быў, без перабольшання, адным з самых цяжкіх у дваццацігадовай гісторыі часопіса. Фінансавыя і арганізацыйныя складанасці, амаль паўгадовая вымушаная паўза... Але, магчыма, упершыню супрацоўнікі часопіса так відавочна адчулі, як хвалююцца за выданне і будучы лёс "Мастацтва" ягоныя прыхільнікі. "Вы — адзіны часопіс, звязаны з прафесійным мастацтвам...", "Дзе ж друкавацца, як не ў вас?..", "Такіх выданняў больш няма...", — такія думкі рэфрэнам гучалі з вуснаў многіх сталых аўтараў і чытачоў.

У ліпені 2002 года была створана рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Культура і мастацтва", у якую ўвайшлі газеты "Культура" і часопіс "Мастацтва". У выдання з'явіўся новы рэдактар — доктар філасофскіх навук Вадзім Салееў, новая рэдкалегія, новыя супрацоўнікі. Выпрацоўваецца і крыху іншая канцэпцыя часопіса, якая ўлічвае ўсе творчыя здабыткі і знаходкі "Мастацтва" за мінулыя гады, але пабудавана з разлікам сучасных умоў існавання.

Хочацца думаць і хочацца верыць, што арганізацыйныя крызіс пераадолены і што мы знаходзімся на пачатку новага творчага ўздыму. У гэтым пераконвае і першы, юбілейны нумар "Мастацтва" за 2003 год, у якім выступілі многія вядомыя дзеячы беларускага мастацтва. І тое, што на грунце часопіса плануецца стварэнне выдавецтва "Мастацтва", дзе будзе рыхтавацца і выдавацца і кніжная, і альбомная прадукцыя, звязаная з беларускім прафесійным мастацтвам. І тое, што ў цяперашні час рэдакцыя актыўна распрацоўвае канцэпцыю будучых дадаткаў да часопіса (магчымыя назвы — "Архітэктурная галерэя", "Беларуская драматургія", "Галерэя візуальных мастацтваў"). І тое, што набыццё новага, больш сучаснага камп'ютэрнага абсталявання дазволіла рэдакцыі амаль поўнасцю перайсці на лічбавыя тэхналогіі і скараціла тэрмін падрыхтоўкі нумара.

Новы час акрэслівае новыя мэты. Адна з найбольш кардынальных, стратэгічных задач, якія стаяць перад сабой і рэдакцыя, і абноўленая рэдкалегія выдання, — узняць на ранейшую вышыню аўтарытэт часопіса, умацаваць яго імідж, яго папулярнасць у колах інтэлігенцыі, знаўцаў і аматараў мастацтва. Як спалучыць элітарнасць і масавасць? Як спалучыць грунтоўнасць, глыбіню аналізу з эмацыянальнасцю выкладу і папулярнасцю? Як зрабіць часопіс заўсёды цікавым, вострым, актуальным, запатрабаваным непараўнальна больш шырокай, чым цяпер, аўдыторыяй? Адказаць на гэтыя пытанні і вырашыць гэтую дылему часопіс зможа толькі разам са сваімі лепшымі аўтарамі. І дзякуючы ім.

"Мастацтва" заўсёды вабіла інтэлектуалаў. Таму што яно само заўсёды было інтэлектуальным выданнем, у якім высока цаніўся талент, маштаб і самабытнасць асобы, адданасць нацыянальнай ідэі і нацыянальнаму мастацтву. "Мастацтва" заўсёды было трыбунай, на якую выносіліся многія вострыя, актуальныя праблемы развіцця прафесійнай творчасці. Тут заўсёды друкаваліся самыя аўтарытэтныя ў рэспубліцы аўтары. На старонках выдання адлюстроўваліся самыя адметныя з'явы ў тэатры, музыцы, выяўленчым мастацтве, кіно, мастацкай фатаграфіі.

Задумаемся: у той час, калі многія аналагічныя рускія выданні — найперш дастаткова прадстаўнічыя і ўплывовыя часопісы "Театр", "Искусство", "Творчество", "Декоративное искусство" — або спынілі сваё існаванне, або, пераадолеўшы фінансавыя і арганізацыйныя крызіс, аднавілі выхад у якасці альманахаў — "Мастацтва", тым не менш, працягвае выходзіць.

Калі прастора часопіса здатная адлюстраваць не толькі прастору ролі і спектакля, не толькі прастору жывапіснага і музычнага твора, але і зменлівую, шматмерную, шматфарбную, шматгалосую прастору эпохі, — такому выданню наканавана доўгае і шчаслівае жыццё.

Нам — усяго дваццаць. І таму мы — зусім маладыя. І таму ў "Мастацтва" — яшчэ столькі адкрыццяў, здабыткаў, заваёў наперадзе...

**Таццяна МУШЫНСКАЯ,**
**адказны сакратар часопіса "Мастацтва"**



**НА ЗДЫМКУ: Міхась РАМАНЮК — стваральнік і першы рэдактар часопіса і Аляксей ДУДАРАЎ — галоўны рэдактар часопіса ў 1991—2002 гг.**

ФОТА А. СПРЫНЧАНА



## ДЗЕЛЯ ЎЗАЕМАЗБЛІЖЭННЯ

***"ЛіМ" ужо даваў інфармацыю пра VII Мінскі міжнародны фестываль праваслаўных спеваў, а таксама і пра выстаўку "Распятае Косава". Але ў рамках гэтага фестывалю адбылося яшчэ шэраг вартых увагі мерапрыемстваў, у якім бралі ўдзел косаўскія сербы.***

Моцнае ўражанне пакінулі выступленні сербаў на вечарыне духоўнай паэзіі 18 лютага. Сакратар суполкі пісьменнікаў Косава паэт Ранка Джынавіч кранула сэрцы прысутных вершамі пра пакуты суайчыннікаў і пра нараджэнне яго роднай дачушкі па дарозе ў бежанцы. Этнолаг Святлана Стэвіч Вукасаўлевіч выканала народную песню XV стагоддзя, прысвечаную лёсавызначальнаму выбару князя Лазара напярэдадні Косаўскай бітвы – як запавет люду сучаснаму, а народная артыстка Сербіі Івана Жыгон прачытала "Верш няскоранасці", напісаны ў трагічных абставінах супрацьстаяння натаўскім агрэсарам – як доказ, што запавет князя-пакутніка шануецца.

Таго ж самага вечара Івана Жыган у доме міласэрднасці наладзіла паказ фільма пра Міхаіла Пташука -- на аснове матэрыялу, адзнятага ў шматпакутным Косава –Метохійскім краі, куды яна ездзіла разам з М. Пташуком і М. Бурляевым (нататкі М.Бурляева друкаваліся ў "ЛіМе" за 7 лютага б.г.) На праглядзе гэтага фільма прысутнічалі ўдава, сябры і вучні беларускага кінарэжысёра, аддаўшы даніну памяці мастаку, чый патрыятызм не адмаўляў братэрства і міласэрднасці.

20 лютага прайшла сустрэча косаўцаў са студэнтамі і выкладчыкамі БДУ на філалагічным факультэце. З асаблівай увагай слухалі епіскапа Рашска-Прызрэнскага і Косаўска-Метохійскага Арцемія, калі ён, абагульняючы вопыт свой уласны і вопыт манахаў, якія разам з ім наведалі Беларусь, расказваў пра жыццё сербаў у Косава-Метохійскім краі, а потым, па просьбе прысутных, дзяліўся асабістымі ўспамінамі пра сусветна вядомага багаслова і філосафа Іусціна (Попавіча), свайго духоўнага айца. Вядома ж, у філолагаў-славістаў гэта выклікала надзвычайную цікавасць. Падобнае можна сказаць таксама пра кантакт са знаўцай і выканаўцай сербскага эпасу С. Стэвіч Вукасаўлевіч, роўна як і з госцем-паэтам Р.Джынавічам.

Вельмі дарэчы ў гэтай аўдыторыі аказалася прадстаўленне толькі што выдадзенай кнігі сербскага пісьменніка, сябра і прапагандыста беларускай літаратуры, Моміра Лазіча "Калі брат брату здрадзіць" ( пераклады на рускую і беларускую мовы прафесара І. Чароты ). Выдавец, І.Федаровіч, які сам двойчы наведваў Сербію, і Косава ў тым ліку, падарыў кнігу ўсім гасцям і бібліятэцы кафедры славістыкі.

Знаходжанне ў Мінску косаўска-сербскай інтэлігенцыі, напэўна, магло скарыстоўвацца з большым плёнам для беларускіх калег і суправаджацца шырэйшым розгаласам. Але і тое, што адбылося, несумненна, вельмі значна дзеля ўзаемазбліжэння, паразумення.

**У.І.**

## ДЫПЛОМ З БРАНСКА

Гомельская дзіцячая музычная школа № 1 імя П. Чайкоўскага, дзе дырэктарам заслужаны работнік культуры Беларусі У. Курылін, адна з лепшых у рэспубліцы. У ёй працуе сем творчых калектываў. Яе навучэнцы паспяхова выступаюць у самых прэстыжных конкурсах і фестывалях. Юныя піяністы школы прынялі ўдзел і ў міждзяржаўным конкурсе народнай артысткі СССР Таццяны Нікалаевай, які праходзіў у Бранску. У ім спаборнічалі акрамя беларусаў музыканты ад Уладзівастока да Мурманска. Гамяльчане вярнуліся з Бранска з дыпломамі: Насця Гулай (першае месца ў малодшай узроставай групе), Валодзя Козыраў, Ксеня Шур.

## ВЫСТАВА ФРАНЦУЗСКІХ ФОТАМАЙСТРОЎ

Французскі горад Клермон-Феран з'яўляецца пабрацімам Гомеля. Паміж імі ўсталяваліся цесныя сяброўскія і творчыя сувязі. Пастаянна наладжваюцца абменныя канцэрты, выставы. Цяпер у Гомельскай карціннай галерэі Гаўрыіла Вашчанкі адкрыта экспазіцыя работ фотамайстроў з Клермон-Ферана. На ёй шырока прадстаўлены пейзажы, партрэты, якія адлюстроўваюць гэты французскі край.

**А. ШНЫПАРКОЎ**

## ПАМЯЦІ ВОІНАЎ-ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТАЎ

15 лютага ў нашай краіне адзначаўся Дзень памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Гэтаму дню была прысвечана гадзіна-успамін "Праз пяскі Афганістана", якая прайшла ў бібліятэцы-філіяле № 1 Палаца моладзі г. Слуцка. На мерапрыемства былі запрошаны воіны-афганцы: падпалкоўнік У. Мішчонак, маёр А. Курловіч, якія падзяліліся з вучнямі СШ № 12 сваімі ўспамінамі аб вайне ў Афганістане.

Удзел у мерапрыемстве прымала маці загінуўшага воіна-афганца А. Іванковіч, якая з'яўляецца членам асацыяцыі "Долг и память" сем'яў ваеннаслужачых. Яна з болем у сэрцы расказала пра свайго сына Сяргея, які памёр ад ран, чытала свае вершы. Гучалі песні ў выкананні баяніста М. Міхнаўца. Вяла сустрэчу загадчыца філіяла № 1 Г. Сасіновіч.

**Л. ДРОБЫШ,**
**бібліятэкар філіяла № 1**

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

ПЕРШЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАНАЛ

У панядзелак, 17 сакавіка — "Кола часу" ў "Радыёфакце" ў 7.45 раніцы. "Кароткія гісторыі" — у 24 гадзіны.

Аўтарская праграма Навума Гальпяровіча "Брама" — у аўторак, у 22.30. У 24.00 — "Кароткія гісторыі".

"Авансцэна" Святланы Шалімы ў сераду ў 22.30. У той жа дзень — "Кароткія гісторыі".

У чацвер аўтарская праграма Галіны Шаблінскай "Палітра" прагучыць у традыцыйны час — 22 гадзіны 30 хвілін і завершыцца дзень "Кароткімі гісторыямі".

У пятніцу, як заўжды ў 22.30, прагучыць аўтарская праграма Ірыны Шаўляковай "Сентыментальнае паляванне".

У суботу ў блоку "Будзем разам" — "Літаратурны праспект" з Алесем Бадаком, а ў 17 гадзін у жывым эфіры — гутарка з чарговым госцем Маргарыты Прохар.

У нядзелю ў 14 гадзін — "Беларускі альбом", у 17.00 — "Кніжны кіёск". а ў 21.30 — "Канцэртная зала", дзе прагучаць вершы сучасных паэтаў.

# КАНАЛ «КУЛЬТУРА»

"Клуб дамаседаў". Панядзелак—аўторак, у 11.00 чытаем разам раман У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", у чацвер у гэты час — праграма В. Макарэвіча "Натхненне".

"ЛІТАРАТУРНЫ АЎТОРАК" у "Сімфоніі дня" 18 сакавіка прапануе наступныя сустрэчы: у 12.10 — "Дзеяслоў" Л. Рублеўскай, у 13.10 — "Таленты з глыбінкі" М. Прохар, у 14.10 — "Магія творчасці" З. Каваленкі прысвечана заслужанай артысткі РБ З. Асмалоўскай, у 14.40 — "Сугалосcе" У. Дзюбы знаёміць з творчасцю аўстрыйскага паэта XIX ст. Нікалаўса Ленава (аўтара перакладаў на бел. мову Л. Баршчэўскі). З 15.00 — "Ліставанні" І. Рыбіцкага, у 15.30 у "Паэтычным радыётэатры" слухайце "Крымскія санеты" А. Міцкевіча, у 16.10 — "Гаспода" Г. Шаблінскай (паўтор у суботу, у 10.10).

Н. К.

•

24 лютага ў Беларускім лінгвістычным універсітэце адбылася вечарына прысвечаная 110-ым угодкам з Дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. У вечарыне ўзялі ўдзел старшыня СБП Алесь Пашкевіч і ягоныя намеснікі Барыс Пятровіч і Эдуард Акулін. Размова вялася аб значэнні творчасці М. Гарэцкага для развіцця сучаснай беларускай прозы. Удзельнікі імпрэзы адказалі на шматлікія пытанні студэнцкай аўдыторыі па праблемах станаўлення беларускай літаратуры на пачатку 20 гадоў і сённяшняга жыцця пісьменніцкай сябрыны.

Вёў вечарыну загадчык кафедры беларускай літаратуры універсітэта, сябра СБП — Пятро Васючэнка.

•

Творчая сустрэча паміж кіраўніцтвам СБП і студэнтамі першага курса філалагічнага факультэта БДПУ імя М. Танка прайшла 27 лютага.

Ад кіраўніцтва СБП выступілі: А. Пашкевіч, Б. Пятровіч, Э.Акулін і М. Скобла. Сучасны стан беларускай літаратуры і роля пісьменніцкай арганізацыі ў грамадскім жыцці краіны — стала асноўнай тэмай сустрэчы.

У літаратурнай частцы свае вершы студэнтам прапанавалі Міхась Скобла і Эдуард Акулін.З пародыямі на ўдзельнікаў імпрэзы выступіў выкладчык БДПУ і паэт Мікола Шабовіч.У межах сустрэчы адбылася прэзентацыя другога нумара літаратурнага выдання "Дзеяслоў".

ЯнАк



***Загадкавы вобраз Берагіні як найлепш адпавядае сучаснаму аблічч той рэштکі беларускай нацыі, якая засталася вернай роднай мове і нацыянальнай культуры. Берагіня — равесніца нашаму літвіна-крывіцкаму народу. Верагодна, адна з апякунак тых плямёнаў, якія ўтваралі нашу нацыю. Пакуль што ёй не пашэнціла на даследчыкаў.***



# БЕРАГІНЯ БЕРАЖЭ БЕЛАРУСЬ

Паводле кароткай нататкі ў "Мифологическом словаре" (М., 1991), перадрукаванай у даведніку "Славянская мифология" (М., 1995), *берагіні* (берагыні) — жаночыя персанажы ў славянскай міфалогіі. Аўтары нататкі суадносяць іх з вярхоўным боствам усходніх славян Перуном, але не даказваюць гэтай гіпотэзы. Больш відавочны семантычны генезіс Берагіні з берагамі рэк, азёр, крыніц і парослых лесам узвышшамі (старaславянскае *прегыня*). Паводле міфалагічных функцый яна бліжэй да русалкі — апякункі водных крыніц, лясоў, наогул — фауны. Таксама — жыта ў дні яго красавання. Паводле архаічных паданняў Берагіня набліжаецца да функцый язычніцкай багіні Макаш, выцесненай пад уплывам хрысціянскай традыцыі вобразам Параскевы-Пятніцы — апякункі шлюбу, сям'і, роду, жаночай працы і долі.

Культ берагіняў упершыню зафіксаваны ў "абличеннях" сярэдневяковых хрысціянскіх пісьменнікаў XI ст. Паводле "Слова некоего Христолюбца" нашыя продкі наладжвалі трапезу роду і рожаніцам, ахвяравалі каравай "вилам и огнь возжигали под овином". Паводле таго ж Хрысталюбца (магчыма балгарына па паходжанні, бо ў паўднёвых славян віламі называлі нашых русалак) гэта былі народныя абрады, як правіла, з бяскроўным ахвяраприношэннямі. Культ роду па мужчынскай і Рожаніцам па жаночай лініі з упамінаннем вілаў, Перуна, Вялеса, Макаш.

Яшчэ адно "слова" супраць народных абрадаў прыпісвалася "Златоусту, архиепископу Константина-града", складалася з фрагментаў твораў гэтага айца Царквы і мясцовых каментатараў: "...И начаша жрети (прыносіць ахвяры — **У. К.**) молнии, и грому, и сонцу, и луне. А друзии (іншыя — **У. К.**) Перуну, Хорсу, вилам и Макаша, упарем и берагыням (...). А инии во Сварожитча веруют, и в Артемиду (...) А друзии кладезям приходяще молятся (...) И друзии огневи и каменю, и рекам, и источникам, и берагыням, и древам, не токмо же прежде в поганстве, но мнозии и ныне то творять (...) А друзии веруют в Стрибога, Дажьбога и Переплута, иже вертячеся ему поють в розех (масках — **У. К.**)".

Сярэдневяковы змагар з паганствам не ведаў міфалогію як сістэму, толькі выкрываў яе. Зусім неабавязкова было нават у класічны перыяд развіцця народнай культуры выракацца хрышчэння і адначасова наладжваць абрады-містэрыі ў гонар прыроды і яе апякуноў, як гэта здавалася ў палемічным запале славянскаму Златавусту. У пазнейшыя эпохі, калі адбывалася інтэнсіўная фальклорная творчасць (XIX ст.) абрадавая культура набыла тэатралізаваны, эстэтычны сэнс, была хутчэй мастацтвам, чым язычніцкай верай. Затое размяшчэнне хрысціянскім палемістам у адной сэнсавай прасторы Макаш, Велеса, Перуна, Хорса і Сварожыца (салярных, сонечных бостваў даўніх славян), Пераплута, Роду, Рожаніцы, урэшце берагіняў, мірныя ахвяраванні крыніцам, калодзежам, рэкам і азёрам поруч з антычнымі (Артэміда) боствамі дазваляюць удакладніць абрадавыя і мастацкія функцыі персанажаў народнай міфалогіі. Культ берагіняў, Макаш меў аграрна-ахоўны, узнаўляльны сэнс: яны — славяна-беларускія паралелі антычным Фауне і Персіфоне. Пераплут, на думку даследчыкаў, семантычна адпавядаў антычнаму Дыёнісу (Вакху). Функцыі антычнай апякункі дзікіх жывёлаў Артэміды выконвала тут Лясная Бабка — персанаж беларускіх легенд і чарадзейных казак.

У беларускай народнай культуры вобраз Берагіні ўвабраў у сябе ахоўніцкія функцыі Макашы і русалак. Памылкова тлумачыць гэтых беларускіх німфаў толькі як дэмантычных, нават злых духаў. Генетычна яны — ахвяры здрады каханню, дзяўчыны-самагубкі, тапельніцы. Мастацка-паэтычная інтэрпрэтацыя іхняга трагічнага лёсу дакладна выявілі Адам Міцкевіч (драматычна-цыклічная паэма "Дзяды") і Янка Купала (вершы, драматычная паэма "Сон на кургане"), Максім Багдановіч (вершы "Русалка", "Над возерам"). Паводле народных павер'яў і легендаў, яны "зводзяць" толькі тых хлопцаў або маладых мужчын, якія здраджваюць свайму першаму каханню ў пагоні за прывідамі. Так былыя тапельніцы, якім здрадзілі, помсцяць за сваю бяду.

•

Паэтычным імем "Берагіня" ахрысціў этнограф Мікола Козенка фальклорны гурт Мётчанскай сярэдняй школы Барысаўскага раёна, калі там у 1996 г. палова вучняў пачала адраджаць беларускія народныя танцы. Гэтай падзеі папярэднічала 18-гадовая навукова-даследчая, творчая і арганізацыйная праца спадара М. Козенкі — кіраўніка дзіцячых танцавальных калектываў у розных рэгіёнах Беларусі, вядучага спецыяліста Міністэрства культуры, выкладчыка Мінскага інстытута (цяпер ужо універсітэта) культуры. Творчы вопыт, мастацкая інтуіцыя, бездакорны густ дазволіў яму пашырыць мётчанскі ўзлёт на іншыя рэгіёны, сплanаваць і правесці ў нялёгкіх умовах сацыяльнага застою вельмі папулярныя рэгіянальныя, рэспубліканскія і міжнародныя фестывалі фальклору і навуковыя канферэнцыі ў Пінску, Гомелі, Гродна, Мінску, Чачэрску. Апошнія па ліку фестывалі, якія адбыліся ў Рудабелцы (цяпер райцэнтр Акцябрскі) у 1999 і 2001 гадах, атрымалі імя "Берагіня".

Так старадаўняя апякунка зямлі, вады, лясоў і жыта нашых далёкіх продкаў стала сімвалам адраджэння традыцыйнай народнай культуры. Шчырая гасціннасць арганізатараў дазволіла мне пабываць на апошнім, такім яркім і запамінальным святе народнага мастацтва ва ўсіх яго відах — ад касцюмаў і "саломкі" да яго эпіцэнтра — харэаграфіі, песні і музыкі. Следам за Максімам Багдановічам магу сказаць пра тую сваю пабыўку: "Дзень гэты, — так пісаў Катул, — Я белым каменем адзначу" ("Успамін"). Вучні 4 — 10 класаў спаборнічалі ў выкананні класічных народных танцаў "Полька", "Лявоніха", "Мяцеліца", "Кадрыль", "Вальс", "Кракавяк", "Ойра", "Падэспань" і інш. у шматлікіх рэгіянальных варыянтах — парных, гуртавых, сольных, у карагодах, гульнях з песнямі, прыпеўкамі, пад музыку традыцыйных музычных інструментаў.

Калі пісалася і ўпершыню ставілася на сцэне Купалава "Паўлінка" (1910—1917), выдатны артыст і рэжысёр Ігнат Буйніцкі дапасаваў народныя танцы да сцэнічнага выканання поруч з народнымі песнямі, вершамі пачынальнікаў нашай класічнай літаратуры. Гэтыя вечарыны (пра іх пісала "Наша ніва", іншыя выданні) мелі вялікі поспех у Вільні, Пецярбургу, беларускіх мястэчках і вёсках. Другому, ужо савецкаму адраджэнню гэтых крыніц нацыянальнай мастацкай культуры пасадзейнічала афіцыйная палітыка "беларусізацыі і карэнізацыі" 1920-х гадоў. Пад польскай акупацыяй гэтую традыцыю развівалі грамадскія дзеячы ў Заходняй Беларусі. Бальшавіцка-сталінскія рэпрэсіі 1930-1940-х гадоў моцна падарвалі народную культуру. Але яна аказалася вельмі жывучай.

Тут спатрэбіцца кароткі гістарычны нарыс бытавання народнай харэаграфіі ў XX стагоддзі. У гады майго вучнёўства і студэнцкія гады (1945-1960) традыцыйныя народныя танцы яшчэ бытавалі на вясковых вечарынах. Выконваліся яны — у меру ўмельства — на школьных выпускных вечарах маёй Наваградчыны.

Татальная і спланаваная савецкай уладай дэнацыяналізацыя і галапіруючая урбанізацыя 1960—1980-х гадоў разбуралі родную мову народа і яе традыцыйную культуру. Тут, на прасторах былога СССР, выявілася універсальная заканамернасць развіцця грамадства: тэхнічны працэс, ускладненне сацыяльнай структуры суправаджаліся крызісам культуры, рэгрэсам у сферы духу — эстэтыкі, маралі, рэлігіі. Кожная цівілізацыя, яе універсальная і рэгіянальная (нацыянальная) культуры праходзяць тры стадыі: перыяды першапачатковай прастаты (парадаксальная складаная прастата этнаграфічнай стадыі), складанага квітнення (класічная эпоха культуры), урэшце, нізходная, рэгрэсіўная стадыя паўторнага спрашчэння.

Першая, этнаграфічная, стадыя — гэта сінкрэтычнае адзінства быцця і культуры, моцныя імпульсы да моватворчасці і фальклору. Але разам з тым — незавершанасць, часта фрагментарнасць прафесійных форм культуры. Класічная эпоха — гэта гарманічная суаднесенасць быцця і культуры, завершанасць арыгінальных метадаў і стыляў у мастацтве. Урэшце, нізходная стадыя паўторнага спрашчэння не выключае таленавітых лакальных адкрыццяў, але ў цэлым пазначана крызісам гуманістычнай культуры на універсальным і рэгіянальным узроўнях, эклектыкай, стылявой мяшанкай, падменай арыгінальнай творчасці рэфлексіяй і, што горш, — травестацыяй культуры, гіганцкім

націскам імітацый, кічавых форм мастацкай культуры, дэградацыяй эстэтычных густаў.

Галапіруючая індустрыялізацыя, гвалтоўная калектывізацыя сялянства, разбурэнне вясковага ладу жыцця і, як вынік, — ненатуральная, вымушаная урбанізацыя на шматнацыянальнай прасторы былога СССР і падрыхтавалі тут трэцюю стадыю спрашчэння. Пэўны час яна штучна стрымлівалася ідэалагічнай дыктатурай і дзяржаўнай цэнзурай, бясплённым, не здольным да творчасці бюракратычным ціскам. Пасля распаду атэістычнай звышдзяржавы карыкатурны лібералізм выявіўся наймей у эканоміцы і палітыцы, найбольш — у сферы культуры, навукі, сродках масавай інфармацыі. Рэзка і амаль адначасова панізіліся ўзроўні адукацыі, навукі, разбураліся класічныя формы мастацтва, панізіўся эстэтычны густ на масавым узроўні, захаваўся толькі на ўзроўні творча-мастацкай і навуковай нешматлікай эліты.

Класічны фальклор, шэдэўры песеннай культуры ў Беларусі захаваліся ў дзесяцігоддзі так званага "брэжнеўскага застою" (другая палова 1960-х — пачатак 1980-х гадоў). Якраз тады беларускія этнамузыказнаўцы школы У. Гіпіуса, Г. Цітовіча адкрылі цэлыя пласты прыгожай і ўзнёсла-трагічнай песеннай культуры на Піншчыне, Тураўшчыне, іншых рэгіёнах беларускага Палесся, пазней на Віцебшчыне, Магілёўшчыне, Брэстчыне, Гродзеншчыне. Лідэрамі тэарэтычнай і практычнай фалькларыстыкі, нацэленай на яе адраджэнне і ўвядзенне ў кантэкст жывой культурнай традыцыі сучаснасці, засталася таленавітая даследчыца Зінаіда Мажэйка, яе вучаніца ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Тамара Варфаламеева, іншыя самаахвярныя навукоўцы, кінарэжысёры, арганізатары этнаграфічных канцэртаў беларускай народнай песні ў Мінску, Маскве, ЗША, іншых краінах.

Вынік гэтага этнамузыказнаўчага выкліку партыйным праграмам "саветызацыі" фальклору, падмены аўтэнтычных абрадаў бюракратычнымі падробкамі і кічавай самадзейнасцю падсумаваны ў фундаментальных даследаваннях, зборніках, у цыклах дакументальна-мастацкіх фільмаў. Пашыраўся рух патрыятычнай моладзі да адраджэння жывога бытавання традыцыйных абрадаў і аўтэнтычнай народнай песні. Гэтыя адкрыцці папоўнілі нашу мастацкую спадчыну, фрагментарна актуалізаваліся ў сучаснай элітарнай культуры. Аднак разбурэнне традыцыйнай вёскі, паскоранае чарнобыльскай катастрофай і яе наступствамі — вымушанай міграцыяй захавальнікаў фальклору, прыпынілі гэтае духоўна-творчае адраджэнне. Парушалася пераемнасць пакаленняў, захавальнікаў аўтэнтычнай песеннай традыцыі. А яе спецыфічна-ўзроставая цыклічнасць не ўпісалася ў сучасную школьную сістэму з яе бясконцым рэфармаваннем.



І вось у канцы XX ст. наступіў час новаму творча-культурнаму выкліку — харэаграфічнаму. Лідэрам гэтага руху стаў выдатны даследчык і практычны этнахарэограф, таленавіты арганізатар руху за адраджэнне народнай мастацкай культуры Мікола Козенка. Дакладна была выбрана стратэгія адраджэння класічнай народнай харэаграфіі і творчая арэна гэтага руху — вясковая школа тых рэгіёнаў, дзе захаваліся традыцыі народнага танца як сістэмы або хоць бы яе фрагментарных узораў. Нават здольны вучань школы, чужы да народнай пластыкі танца, не здолее паўтарыць песні палескага пастуха Сцяпана Дубейкі, але зразумее прыгажосць, узнёслую гармонію традыцыйных народных танцаў і далучыцца да яго па зададзенай праграме і ўласным натхненні. Распрацаваныя спадаром Козенкам праграмы, метады іх ажыццяўлення дакладна разлічаныя на пераемнасць пакаленняў у сям'і, рэгіёнах і ўсёй нацыі. Бацькі, дзяды і настаўнікі змаглі перадаць скарбы нацыянальнай харэаграфічнай культуры сваім дзецям, унукам, што падхапілі гэтую ўзнёслую традыцыю.

Гэты цуд вяртання да актыўнага жыцця унікальнага віду мастацтва, дзе ўзнёслая, элегічная, прыгожая, нярэдка вясёла-камічная музыка трансфармуецца ў пластыку гарманічнага руху цела, дзе кожны адначасова — артыст, глядач і слухач, — пачаўся ў крытычны перыяд спрашчэння масавых танцаў, вяртання іх да першабытнага эмацыянальнага хаосу, да тага ж пазбаўленага прыроднай грацыі, характэрнай для танцавальных гульняў жывёл, птушак і першабытных людзей.

Харэаграфічныя фестывалі і конкурсы па праграме адраджэння фальклору ў цэлым — унікальная беларуская з'ява ў сучаснай агульнаславянскай культуры. Тут нашы блізкія і далёкія суседзі змогуць шмат пазычыць духоўнага золата, срэбра і дарагіх каменняў у нашай "Берагіні". Зразумела, толькі тады, калі беларускае грамадства, дзяржава, уся сістэма народнай адукацыі і ўстаноў культуры зберажэ і памножыць выдатны плён ініцыятывы Міколы Козенкі і іх калег. Бо толькі творчы экстаз масавага далучэння да пластычнай гармоніі народнага танца верне нам райскую атмасферу святочнасці, духоўную лучнасць адчужаных паміж сабою людзей сучаснага урбанізаванага грамадства, у якім страчваецца цэласнасць быцця, рэдуцыруецца да механічнай або электронна-інфарматыйнай функцыянальнасці.

І тут узнікае гамлетаўскае пытанне: Быць, або не быць? Інакш кажучы: ці здольны мы зберагчы "Берагіню", перадаць гэты сімвал духоўнага адраджэння народа — сучаснаму і будучым пакаленням.

**Уладзімір КОНАН**

*НА ЗДЫМКАХ: Ганна ПАЎЛАВЕЦ і Наталля КАСЦЮКЕВІЧ; па дарозе з вандроўкі ў Селішча; Ганна ПАЎЛАВЕЦ ды Зміцер ТКАЧОЎ скачуць "Лявоніху".*

**Захарава, 19**



# РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

**прымае да разгляду:**

***выдавецкія праекты самай шырокай тэматыкі;***
***выканае ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг (ад рэдагавання рукапісу да выдання і распаўсюджвання кніжнай прадукцыі);***
***арганізуе рэкламу і прэзентацыю выданняў.***

**Вул. Захарава, 19, тэл.: 284-85-25.**

Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

# МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе карміць-поіць нас, і мы абавязаны памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: мы беларусы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim@tut.by.




6 сакавіка адбылося чарговае пасяджэнне літсуполкі "Літаратурны квартал". Гэтым вечарам у рэдакцыю "ЛіМа" завіталі Віктар Іваноў, Мікола Кандратовіч, Алена Ігнацюк, Валянціна Гарністава, Віка Трэнас, Наталля Дзянісава, Алена Багамолава, Таццяна Барысюк, Таццяна Будовіч, Наталля Кучмель, Усевалад Гарачка, Сяргей Патаранскі, Аксана Спрынчан. Тэмай пасяджэння было абмеркаванне творчасці В. Трэнас. У ім прынялі ўдзел амаль усе прысутныя. У прыватнасці Н. Кучмель указала на "ласкутнасць" вершаў Вікі: "Верш не стварае асобнай карціны". Але выказала надзею, што са сталеннем, з гарманізацыяй натуры маладой аўтаркі гарманізуюцца і вершы. Людміла Рублеўская, "гаспадыня" "Літквартала", нават вытлумачыла прыроду гэтай самай "ласкутнасці". Яна заўважыла, што на пачатку творчага шляху пераважаюць вобразы, і лягчэй прыцягнуць новы вобраз, чым развіць папярэдні, але гэта куды лепш у параўнанні з выпадкам калі на самым пачатку пераважае "рукадзельнасць", салоннасць. Іншымі сябрамі літсуполкі адзначалася прысутнасць у творчасці Вікі элементаў постмадэрну, абсурдызму, юначага нігілізму... Увогуле, трэба сказаць, што гэтым разам абмеркаванне было вельмі жывым, нефармальным, і не раз Людміле прыходзілася прасіць прысутных, каб хоць на паўтона знізілі галасы...

А чарговае пасяджэнне "Літквартала" адбудзецца толькі 20 сакавіка (як заўжды ў рэдакцыі "ЛіМа" а 18-ай гадзіне), бо ў гэтыя чацвер і пятніцу праходзіць семінар маладых літаратараў, удзельнікамі якога з'яўляецца добрая палова сяброў суполкі.

**Усевалад ГАРАЧКА**

**ВІНШУЕМ!**

# ЛАЎРЭАТЫ КОНКУРСУ

Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь правяло конкурс на лепшы твор літаратуры і мастацтва, прысвечаны 85-годдзю Узброеных Сіл РБ. У конкурсе прынялі ўдзел пісьменнікі. Сярод іншых лаўрэатамі конкурсу сталі Генадзь Катляроў, Іван Скарынкін і Яўген Каршукоў. Міністр абароны РБ генерал-палкоўнік Л. Мальцаў павіншаваў пераможцаў і ўручыў ім дыпломы і грашовыя прэміі.

# СУСТРЭЧЫ Ў БІБЛІЯТЭЦЫ

У літаратурнай гасцёўні Слонімскай цэнтральнай бібліятэкі імя Якуба Коласа адбылася сустрэча краязнаўцаў Слонімшчыны, якая прайшла з удзелам гасцей з Гродна. А нагадаю таму стала прэзентацыя кнігі Аляксандра Талерчыка "Парэчча", якая прысвечана адной толькі вёсцы Слонімскага раёна.

Аўтар вызначыў жанр сваёй працы як гісторыка-краязнаўчы нарыс, але ён шчодра насычаны і асабістымі ўспамінамі і роздумамі, таму чытаецца кніга лёгка, быццам таленавіта напісаны мастацкі твор.

Што датычыцца навуковай, гістарычнай (а г.зн. большай) часткі кнігі "Парэчча", то, на думку спецыялістаў, яна вызначаецца прафесіяналізмам (хаця аўтар і не з'яўляецца гісторыкам па адукацыі), грунтоўнасцю, можа служыць амаль што падручнікам па гісторыі названага мястэчка.

На сустрэчы ў бібліятэцы прысутнічаў знакаміты слонімскі паэт, гісторык і краязнавец В. Супрун, пісьменнікі С. Чыгрын і А. Якімовіч, былыя і сённяшнія настаўнікі, супрацоўнікі гарадскіх бібліятэк і многія іншыя, каго таксама цікавіць краязнаўства. Было і шмат моладзі. Выступаючыя па чарзе перадавалі словы адзін аднаму, а пачала гутарку старшыня Слонімскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Л. Рапінская, якая падрабязна асвятліла ролю бібліятэк у краязнаўчай справе, і цэнтральнай бібліятэкі ў прыватнасці.

А. Госцеў, сябра абласной управы краязнаўчага таварыства імя Тэадора Нарбута, прыехаў на гэтую вечарыну ў Гродна і прыняў актыўны ўдзел у размове. Там жа, у абласным цэнтры, жыве зараз і аўтар кнігі "Парэчча", А. Талерчык. Як і Аляксей Якімовіч, ён таксама нарадзіўся ў гэтай вёсцы. Жартаўлівыя ўспаміны двух землякоў пра колішняе жыццё ў Парэччы выклікалі апладысменты і ўсмешкі на тварах слухачоў.

...Але "словы адлятаюць, толькі напісанае застаецца". Так казалі ў старажытныя часы нашы продкі. Можна гаварыць многа, колькі заўгодна ўзвышаных слоў, але сапраўдны след у гісторыі пакіне толькі напісанае — к н і г а. Памятаеце верш нашага класіка:

*Усё пакінуць след павінна,*
*Бо, як пачаўся белы свет,*
*Прамень, пясчынка і расіна*
*Нязменна пакідае след...*

І безумоўна, кніга, якую напісаў Аляксандр Талерчык, — гэта найлепшы след, неацэнная слава, якую толькі мог пакінуць роднаму мястэчку яго ўдзячны сын.

У мінулым годзе абласным краязнаўчым таварыствам імя Т. Гарбута праводзіўся конкурс "Мой радавод", прызёрамі якога сталі і слонімцы Валерый Епіфанаў і Міхась Варанец. А. Госцеў уручыў ім падарункі ад журы конкурсу.

А яшчэ наш гродзенскі госць паведаміў, што ў некаторых раёнах Гродзенскай вобласці ўжо створаны рэгіянальныя краязнаўчыя таварыствы. Напрыклад, у Зэльве дзейнічае краязнаўчае таварыства імя Ларысы Геніюш. Алесь Пятровіч выказаў ініцыятыву аб стварэнні падобнага таварыства і ў Слоніме. Яго прапанова была аднагалосна падтрымана ўсімі прысутнымі.

Такім чынам, у нашым горадзе было створана новае грамадскае аб'яднанне — раённае краязнаўчае таварыства імя Гальяша Леўчыка. Старшынёй таварыства быў абраны С. Чыгрын, яго намеснікам — С. Пракоф'ева, а ў раду арганізацыі ўвайшлі В. Супрун, П. Лойка і А. Якімовіч. Членамі таварыства адразу ж сталі каля 25 чалавек.

**Святлана ПРАКОФ'ЕВА,**
член Слонімскага раённага літаб'яднання



# ПАЭТЫЧНЫ РАМАН ЛЕАНІДА ДРАНЬКО-МАЙСЮКА

У слове "раман" заўсёды прысутнічае не толькі ўказанне на жанр, але і спасылка на пэўныя любоўныя дачыненні. Значыць, я павінен знайсці ў тэксце двух герояў, вакол якіх круціцца "сюжэт і фабула", дзе ёсць "завязка, кульмінацыя і развязка", усе гэтыя словы я ўзяў у двукоссе, бо нічога падобнага там няма.Ды і сам тэкст *сыплецца між пальцаў нічым не знітаваны*. Так нічым акрамя любові, а гэта ўжо і ёсць сапраўдным цэментуючым матэрыялам.

А цяпер зірнём на герояў рамана. Для іх аўтар выбраў жанр паэтаграфіі, наогул для нашае літаратуры мала засвоены, вось так наўскід можна прыгадаць самае большае дзесятак твораў, якіх дастане хіба на сціплую кніжную паліцу: "Зорка Венера", "Як агонь, як вада", "Жыццё і ўзнясенне", "Пры апазнанні затрымаць". Але гэтыя творы ўсе пісаныя па адыходзе герояў і ў пэўным сэнсе з'яўляюцца набыткам іншага жанру — агіяграфіі альбо жыційнае літаратуры. Але так ужо кажа і загадвае традыцыя нашай літаратуры, што вобразы нашых паэтаў, гэта, калі хочаце, архетыпы *нацыянальных ідэалаў*, хаця вусная квазілітаратурная творчасць (памяць?) фіксуе шмат прыкладаў, калі нашыя славутасці ачалавечваюцца. І гэта адбываецца адпаведна закону кампенсацыі. Цяжкасць жанру паэтаграфіі якраз палягае ў тым, каб знайсці адпаведны прыём альбо шэраг прыёмаў, які б стаўся парадыгмаю жыццяпісу. Можа гэта станецца жывою тканінаю паміж датамі нараджэння і смерці, тым што яшчэ раз запоўніла даты напісання рыфмаваных і нерыфмаваных радкоў, бо сапраўдная біяграфія паэта — ягоныя творы, думкі, мроі ўвасобленыя не ва ўчынкі, а ў словы.

"Скрыпка змоўкла, і пахне адно каніфоль", альбо вось гэта:

*Даляры памяняць на сон*
*І спаць калі магчыма гэта*
*Да крыку ранішніх варон*
*Над беларускамоўным гета.*

Першы радок у гэтай страфе мне рэжа слых, бо памяняць гэта азначае раўнавартасную замену, а тут на маю думку, адбываецца ці то заніжванне курсу сна, ці то ўздыманне значэння даляраў, хаця я можа быць, як заўсёды, не маю рацыі.

Я не ведаю, але другая частка "рамана" не сталася для мяне падставаю для развагаў, нават тое спатканне, што адбылося праз сем месяцаў. Ведаю і я, што віною доўгай ростані былі сябры, якіх магло і не быць, бо іх усё-ткі выбіраюць (ці ўсё ж не выбіраюць?). А што рабіць, калі выбіраць няма з каго? Хаця я мяркую, што прадбачыць гэта такі ж самы дар, як і прабачаць. Някляеў дараваў сваім нядобразычліўцам, і няхай ім жа даруе Дранько-Майсюк і складзе пра гэта верш, бо сам жа і кажа:

"Пакут няма, ёсць успаміны".

Але здаецца я стаў на шлях павучання. Раман гэты нібыта і пра Някляева, але паэтаграфія трэцяе, заключнае, часткі кажа мне пра іншае. Гэта раман пра жыццё паэта Леаніда Дранько-Майсюка і нават не пра жыццё, а пра нараджэнне, калі месца нараджэння мае большы сэнсавы знак чым год нараджэння. І тут назва Давыд-Гарадок семантычна супольная з прозвішчам. Тут падвоенасць замыкаецца ў квадрат, а гэта ўжо геаметрыя. Але Леанід выводзіць сябе не з квадрата, а з давыдгарадоцкіх рэкаў, як калісь пракокі выводзілі народ Ізраіля з палону рэк вавілонскіх. Тыя рэкі былі чужыя, хоць і салодкія, а тут яны сілкавалі паэтаву мову і сапраўдным Ірданам сярод іх была Гарынь, дзе можна было любіць слухаючы. І вось гэтай трэцяй часткай паэт аддае сваю колішнюю пазыку малой радзіме, за якую ў чалавека няма нічога больш. Але не толькі імёны давыдгарадоцкай вады далі нам паэта, сваю ролю тут адыгралі і "кветкі, якія ўмелі пераканаць, што белае — не зусім белае, а чырвонае — не зусім чырвонае". Дранько-Майсюк спрабуе давесці нам, што калі б ён не стаў пісьменнікам, то




вырошчваў бы кветкі на продаж, але я з гэтым не згодны, бо мяркую, што ў любым выпадку Леанід стаў, як ён гэта называе, "цікетачнікам", і пра гэта сведчаць ягоныя вершы сваёй не тое што няшчырасцю, а хутчэй нейкай свядомай несапраўднасцю. І ў гэтым няма ніякае крыўды, хаця можа і ёсць, бо паэзія вымагае ад кожнага глыбіняў і вышыняў духу. Хаця хто ведае, што ў кожным асобным выпадку ад каго вымагае паэзія?

"Біяграфія заўсёды завяршаецца тады, калі роднае пераходзіць у чужое; пачалася і скончылася мая біяграфія — пачалася і па сённяшні дзень доўжыцца мая паэтаграфія".

*І я хацеў бы зрабіць свой унёсак да* гэтай філасофскай высновы: калі завершыцца паэтаграфія, то пачнецца жыццё, сапраўднае жыццё паэта, якое некалі станецца набыткам агіяграфіі.

Можа быць...

**Сяргей ВЕРАЦІЛА**

# ЗАЛАТОЕ СМЕЦЦЕ

З чаго пачынаецца паэзія? Пытанне гучыць адыёзна, затое адказ бяжыць паперадзе думкі — "не ведаючы сораму, са смецця..."

У кожнага паэта свая "сметніца"... Друз успамінаў аскепкі культурнай спадчыны, рэшткі ўчарашняй эмоцыі.

У "Паэтаграфічным рамане" Леанід Дранько-Майсюк папярэджвае — не варта высвятляць, што такое паэзія, але падрабязна і з задавальненнем распавядае, з чаго яна пачынаецца. "Паэзія ў літаратурным выяўленні пачынаецца з першага выпадковага слова, а проза — не..." Фармальна новая кніга складаецца з паэзіі і прозы, змястоўна — толькі з паэзіі. З цікавасцю адшукваеш першыя вершаваныя радкі, каб зразумець, што не схлусіў паэт, і думка яго паэтычная любіць жывіцца выпадковым залатнікам прыватных размоў, слязою начнога застолля, ці гукам дрыжачай шыбы, за якой гаманкі Скарынаўскі праспект.

Затое ўжо першае слова паэтаграфічнага рамана выверанае да працяжнікаў: "Някляеў — не проста прозвішча, а знак, сімвал, калі хочаце, стыль паводзін". Трэба заўважыць, што пісанне рамана пра сябра — гэта таксама "стыль паводзін", стыль невядомы нашай літаратуры. Тым больш цікава, што кніга асвятляе падзеі недалёкага часу. Нязмушанасць жывой гаворкі ўраўнаважвае грамадзянскі пафас твора — у гэтым безумоўная вартасць кнігі.

*Маўчанне — адзенне душы.*
*Ты ведаў пра гэта, мой дружа,*
*Аднак жа не здолеў, не здужаў*
*Стаяць пры маўклівым крыжы*
*І, нібы засохлую ружу,*
*Ты скінуў маўчанне з душы.*

*Што будзе далей, пакажы —*
*Якое табе частаванне*
*Чакае ў халодным тумане...*

Трэба заўважыць, што беларускі чытач даўно выказваўся на карысць вобраза беларуса — пераможцы, чалавека дзеяння, чалавека ўчынку. Верагодна, гэтае пажаданне выказвалі яшчэ нашыя чытаючыя продкі, бо, як вядома, айчынная літаратура не мела свайго гераічнага эпасу. "Я — мужык, беларус..." — гучала годна, але не канкрэтна. Някляеў — аказаўся запатрабаваным літаратурнай сітуацыяй, як герой, нават у большай ступені, як паэт. Да гонару Дранько-Майсюка, ён не ўзвышае свайго героя, а пакідае яму рэальны маштаб. Адзначаючы "фальклорную памяць" Някляева, ён не ўводзіць у фальклор яго самога. Герой застаўся чалавекам — трохі іранічным, трохі з'едлівым, трохі расчараваным, трохі расчароўваючым... Напэўна ў гэтым і палягае адрозненне гэтых двух пісьменнікаў — яны і ў лепшыя часы жылі ў розных краінах: адзін у Рэспубліцы Расчараванне, другі — у Зачараваным Каралеўстве. Дастаткова згадаць наступную размову, каб зразумець — людзі гэтыя аб'яднаныя не столькі ўнутраным падабенствам, колькі тэмай унутранай эміграцыі: "Аднак жа кпліва глядзеў на мяне, калі я заяўляў: цьмянасць — гэта і ёсць сапраўдны вынік шчасця... А з адной маёй прыгожай мары, атуленай кухонным алкаголем, дык наогул пасмяяўся. А мара была такая: жыць у краіне, у якой паэзіі адведзена роля залатога гадзінніка, назаўсёды згубленага ў густой траве цывілізацыі.

— Не, браце, жыць ты будзеш тут і да скону! — з відавочным колкім задавальненнем выразна вымавіў ён".

Эпітэт "залаты" характэрны для паэтаграфічнай прозы, якая па тоне аддалена нагадвае "Залатую ружу" К. Паустоўскага, асабліва ў першай частцы. "У паветры беларускага жыцця паболела металу" — зазначыў Дранько-Майсюк. Аднак чамусьці ствараецца ўражанне, што для паэта і зараз метал — гэта не жалеза абцугоў, а залаты пыл ювелірнай майстэрні. Смецце, здольнае прыхарошыць прадметы і з'явы... Неўпрыкметку вызалаціўся і Някляеў, які, па выразе Дранько-Майсюка, не толькі стваральнік паэзіі, але і яе "прадмет". У нейкі момант ловіш сябе на тым, што думаеш не пра ўзаемаадносіны двух паэтаў, а згадваеш пра лёс хлопчыка, якога абраў для свайго мастацкага перформансу з залачэннем чалавечага цела Леанарда да Вінчы. Атрымалася прыгожа, але несумяшчальна з жыццём — забытым мастаком, ён памёр.

Першыя старонкі кнігі ствараюць уражанне, што гэты твор напісаны не пад "Наркотыкам шляхетнасці" (вызначэнне Дранько-Майсюка), а пад халодным струменем рэальнасці. Аднак паэт застаўся верным прыродзе свайго таленту, і самыя запамінальныя мясціны рамана ўсё-ткі не пра Някляева, а пра беларускіх дзяўчат — шчаслівую гімназістку і кульгавую красуню."Ты ў Менску, юная пражанка..." — "рыфмаваны жарцік", які дае абсалютнае ўяўленне аб прасодыі ў вератворчасці Дранько-Майсюка. Вершы, змешчаныя ў другой частцы кнігі, больш глыбокія па змесце, аднак жа менавіта "Пражанка" ідэнтыфікуе аўтара кнігі з тым вобразам паэта-казановы, які так хвалюе беларускіх чытэльніц.

Трэцяя частка кнігі — біяграфічная. Альбо ўласна паэтаграфічная. Яшчэ дакладней — тапаграфічная. Па-за межамі вызначэнняў — гэта ўспаміны пра Давыд-Гарадок, пра маленства, пра родных і блізкіх, сяброў і настаўнікаў, ваду і кветкі. Гэта добра напісаная лірычная проза, дзе аўтар нечакана сціпла — як для паэта — вызначе сваё нараджэнне, і таму Віфлеем велічнейшы за год нулявы, а, скажам, Вязынка — за 1882... У маім выпадку вяршэнства месца народжання відавочная, бо год майго з'яўлення на свет, 1957-ы, гэтак жа небагата што значыць у параўнанні з Давыд-Гарадком, як небагата што значу і сам я ў параўнанні з тым жа Давыд-Гарадком".

"Небагата што значу і я сам" — мілае мужчынскае какецтва, даравальнае за добрыя вершы.

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

# НЕКТАР ДЛЯ ПАЭТЫЧНАГА МЁДУ

Люблю сачыць за перыядычнымі выданнямі, у якіх змяшчаюцца новыя вершы і цэльныя падборкі нашых паэтаў — і старэйшых, і маладзейшых. Часта выступалі раней і выступаюць зараз у газетах і часопісах паэты ўжо сталага пакалення: Генадзь Бураўкін, Уладзімір Паўлаў, Мар'ян Дукса, Юрась Свірка, Мікола Мятліцкі, Казімір Камейша, Віктар Ярац і іншыя майстры паэтычнага слова. Люблю чытаць Таісу Бондар, Раісу Баравікову, Ніну Маеўскую, Соф'ю Шах і іншых (хай даруюць, каго не назваў), глыбока лірычная паэзія якіх цешыць маё старэчае сэрца і розум. Я ўжо не кажу пра творчасць нашых народных паэтаў Ніла Гілевіча і Рыгора Барадуліна, якая асвятляе тэмы нацыянальнага жыцця ў нашым грамадстве. У эпічным жанры наша паэзія ў апошні час папоўнілася цікавымі па форме і змесце паэмамі Ніла Гілевіча "Лодачкі", Уладзіміра Някляева "Паланэз", паэмамі і вершамі Міколы Мятліцкага пра чарнобыльскую трагедыю... І ўсё ж найперш хочацца пагаварыць аб змешчаных у друку паэтычных падборках і асобных вершах, пра тое, што ў іх найбольш спадабалася. А шчыра сказаць, я асабіста радуюся кожнаму новаму добраму вершу, кожнаму радку, якія змаглі сказаць мае сябры па пяры — значна маладзейшыя за мяне па ўзросце.

*Пачынаюць лісты з дуброў*
*Ападаць зусім нечакана.*
*Не шкадуйце харошых слоў*
*Для людзей дарагіх, для каханых.*

Такімі шчырымі радкамі звяртаецца да сваіх сяброў па паэтычным цэху Алег Салтук у адным з вершаў, толькі што змешчаных у "ЛіМе".

А вось як трапна і вобразна сказаў аб каштоўнасці паэтычнага слова цудоўны наш паэт Казімір Камейша ў сваіх празаічных нататках, надрукаваных у першым нумары часопіса "Полымя" за гэты год:

"Соты паэзіі творацца з воску душы. А сам паэтычны мёд, як і ўсялякі мёд, ён з таго нектару, які шукаць трэба ў прыродзе".

У адным нумары "Літаратуры і мастацтва" ўдалося разам выступіць двум маладым таленавітым паэтам Міколу Вічу і Марыне Наталіч. Вершы Наталіч перадаюць аблічча яшчэ маладой і, безумоўна, прыгожай жанчыны. Аб гэтым можна меркаваць па вершах, прысвечаных Рыгору Барадуліну. У вершы, які носіць адпаведную назву "Паэт", заўважаюцца тонкаеназіранне і разуменне таго, чым жыве, да чаго імкнецца сэрца старэйшага сябра, як ён "абдымае, аглядае сам сябе, але вобразы яго пры ім застаюцца, хоць яны вам трошкі незнаёмыя, чужаватыя, але яго позіркі, цені, вокны і вочы вы перастворыце пераказамі, перапелі, перамалявалі на свой лад..." Вядома, аб чым ідзе гаворка — аб тым, як адзін добры паэт павінен вучыцца ў другога добрага паэта майстэрству. І ў канцы гэтага верша Марына Наталіч сваімі словамі паказвае Рыгора Барадуліна як цудоўнага перакладчыка многіх твораў з іншых моў свету на беларускую мову:

*Вы так пералілі "Вершы для Эльзы",*
*Што, слухаючы іх,*
*Безназоўная жанчына верыць,*
*што яны толькі для яе,*
*І безумоўна дзякуе.*

Думка, выказаная простымі, зразумелымі ўсім словамі, пацвярджае выказванне класіка аб тым, што "перакладчык у прозе раб, а ў паэзіі сапернік".

А вось другі верш Марыны Наталіч, у якім чытач заўважае, як аўтарка можа захапляцца прыгажосцю свету, яе наваколлем, і тое, што заўважае, малюе светлымі, чыстымі фарбамі.

*Мне па душы белыя аблокі*
*На сініх абсягах нябёсаў,*
*Падобныя на перыйкі,*
*Што адвеяліся ад птушыных крылаў.*

*Выглядваюць з-за небакраю*
*аблокі —*
*Лёгкія, чыстыя, бялюткія:*
*Не сумуй!*
*Мы назаўсёды вяртаемся,*
*Як птушкі на радзіму.*

Ці ж не чытаецца тут у падтэксце аб тым, як кожны чалавек павінен любіць свой родны кут, тую зямлю, на якой нарадзіўся і ўзрос?

Па-свойму лірычна і надзённа гучаць вершы Міколы Віча. Тут ужо адчуваецца мужнасць чалавека-мужчыны, які ўспрымае свет сваім філасофскім розумам.

*Прыйдзе восень —*
*забярэ мяне з сабою,*
*Прыйдзе вецер —*
*забярэ мяне з сабою,*
*прыйдзеш ты —*
*і спынішся, як смерць,*
*сэрца не паспее дагарэць.*

Лірычны герой выказвае пачуццё, якім жыве чалавек, гадуючы ў сэрцы надзею на ўсё лепшае, не шукаючы толькі адмоўныя з'явы, спадзяецца на прыгажосць і вернасць.

*Схаваўшыся ў ванне, —*
*ёсць сэнс адрадзіцца самому*
*З жаночых пакутаў і рэбраў*
*самотных мужчын.*

*Глядзіце, як сцякаюць*
*апошнія кропелькі стомы*
*і сэнс вырастае на месцы*
*глыбокіх маршчын.*

Чытаючы творы паэзіі, асабліва маладой, не толькі ў асобных кнігах, але і ў перыядычным друку, заўважаеш, што амаль усе паэты сэрцам чуюць голас сваёй эпохі і адгукаюцца на яго сваімі шчырымі пачуццямі. Здзіўляешся толькі — чаму наша беларуская прэса — цэнтральныя, абласныя, раённыя газеты — так мала альбо зусім не адводзяць месца для вершаў побач з сумнымі, сухімі артыкуламі пра рэформы.

У гэтых планах станоўча вылучаецца наша паважаная рэспубліканская газета "Звязда", Усяго на працягу некалькіх тыдняў там былі змешчаныя падборкі вершаў трох нашых вядомых паэтаў: Алеся Пісьмянкова, Віктара Шніпа і Галіны Каржанеўскай. Для кожнага з іх характэрныя свае творчыя пошукі, свой паэтычны почырк, свае асаблівасці роднай мовы, і чытачам газеты гэта, безумоўна, прыносіць эстэтычнае задавальненне. Віктар Шніп, напрыклад, у сваёй падборцы паказаў сябе як майстар балады. У яго падборцы яны прысвечаныя светлай памяці класікаў нашай літаратуры — Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Багдановічу. І адзін твор называецца "Балада пра каралі", яна вылучаецца асаблівым лірызмам і вобразнасцю. Паэт гаворыць пра жыццёвую сцяжыну, якая

*Мо выведзе да нашага святла,*
*Якое ёсць, як нітка, дзе каралі*
*Сябе па-каралеўску адчувалі,*
*І нітка доўгай, як жыццё, была.*

Ці трэба тлумачыць тое, што не патрабуе тлумачэння, а толькі шчырага ўспрымання свежых, новых думак і вобразаў, якіх часам не хапае некаторым нашым маладым паэтам. Але радуе і абнадзейвае тое, што ў нашу беларускую літаратуру прыходзяць усё новыя сілы і ў паэзіі, і ў прозе. Пра апошнюю трэба асобная гаворка. Я ж у гэтых кароткіх нататках спыняю сваю ўвагу толькі на тых паэтычных творах, якія змяшчаліся ў перыядычным друку на працягу некалькіх апошніх тыдняў. І тут хочацца закрануць яшчэ адно, мне здаецца, важнае пытанне, што датычыць эстэтычнага выхавання людзей, асабліва маладога пакалення. Яго захапленне рознымі сучаснымі шоу...

Чаму нашы газеты, апроч "Звязды", не друкуюць новых песень на лепшыя тэксты нашых паэтаў альбо проста не змяшчаюць добрых лірычных вершаў, якія прыцягвалі ўвагу кампазітараў? А якая багатая ў нас паэтычная спадчына ў гэтых адносінах, якія цудоўныя лірычныя вершы пакінулі нам Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, якія цудоўныя творы ёсць у Рыгора Барадуліна, Казіміра Камейшы, Юрася Свіркі і іншых. А нашы кампазітары каторы час прывязаны да адных і тых жа імёнаў... Ці трэба лішні раз даказваць тое, што паэзія і музыка — гэта вечныя, неразлучныя сёстры, дзве музы, якія звязаны непарыўнымі ніцямі творчай дружбы і супрацоўніцтва. Вось гэтага часам не адчуваеш і не заўважаеш у творчасці многіх нашых песенных калектываў і асобных выканаўцаў, якія штодзённа выступаюць на эстрадзе, у шматлюдных залах і з экранаў тэлебачання...

У апошні час развялося шмат розных эстрадных груповак, больш чым літаратурных аб'яднанняў. Усе хочуць стаць знакамітымі на ніве шоу-бізнесу, хоць цяжка вызначыць — якая ў іх пад нагамі ніва, у якой глебе іх карані.

У сталіцы, як паведамлялася нядаўна ў "Вячэрнім Мінску", з'явіўся ансамбль ці проста музычная група пад кіраўніцтвам Аксаны Кавалеўскай. Вельмі прыгожая назва ў групы — "Краскі". А якія песні выконваюць спявачка і яе сябры? Я проста быў здзіўлены і ўзрушаны да глыбіні душы, калі сама Аксана Кавалеўская ў размове з карэспандэнтам газеты сказала, што ў яе рэпертуары няма аніводнай беларускай песні...

Кажучы пра нашу эстраду і яе сувязь з паэзіяй, нельга не прыгадаць цудоўнага рускага акцёра і спевака Уладзіміра Сямёнавіча Высоцкага. Былі, можа, і ёсць да яго розныя адносіны, як і да кожнага таленавітага паэта, артыста. Але мне, напрыклад, на ўсё жыццё запомніліся ў яго хвалюючыя песні "Паляванне на ваўкоў", "Вайна", "Песня пра шпіталь", "Сыны ідуць у бой", "Мой чорны чалавек", якія сталі шэдэўрамі аўтарскай песні цудоўнага савецкага барда.

Нектар для паэтычнага мёду душы, пра які вышэй прыводзілася выказванне Казіміра Камейшы, мы заўсёды адчувалі, калі слухалі і слухаем выступленні нашага славутага песеннага ансамбля "Песняры". Тое, што зрабіў і пакінуў нам у спадчыну вялікі песняр Уладзімір Георгіевіч Мулявін, застанецца навечна ў скарбніцы нашай нацыянальнай паэзіі і музычнага мастацтва. Кожны, хто хоць адзін раз пачуў у выкананні гэтага ансамбля "Алесю" на словы Аркадзя Куляшова, "Спадчыну" Янкі Купалы, "Мой родны кут" Якуба Коласа альбо "Александрыну" ці некаторыя іншыя песні беларусаў, агучаныя цудоўнай лірай і шчырымі сэрцамі выканаўцаў Леаніда Барткевіча, Толі Кашапарава, самога Уладзіміра Мулявіна, пранясуць іх у сваім сэрцы праз усё жыццё. Кім бы ты ні быў — паэтам, рабочым, аратым ці радавым салдатам — у тваёй душы назаўсёды застануцца шчырыя словы і мелодыя гэтых песень. Трэба, каб толькі ў кожным мастацкім слове, у сотах паэзіі было больш высокамастацкага мёду...

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

# КРЫЛЫ ДЛЯ ПАЛЁТУ

***Паэзія Вольгі Базылёвай стала аб'ектам цікавасці чытачоў і прыцягвае да сябе ўвагу, бо сама аўтарка ўпэўнена і нястомна шукае новыя формы для свайго вершаванага зместу і павышае прафесійнае майстэрства. Таму і зборнік "Крылы ў шафе" зусім невыпадковы. Ён падсумоўвае пяцігадовы творчы плён маладой паэткі.***

Сама назва кнігі – "Крылы ў шафе" – гучыць досыць самаіранічна: "крылы ў шафе, пакінутыя на той магчымы час, калі мы развучымся падаць" – бо паэтычны Пегас Вольгі Базылёвай даўно ўжо распраставў свае крылы і ўпэўнена ўзляцеў у паднебную прастору паэзіі. Відавочна, і гэта зразумела па першых радках зборніка, чытач мае справу не з пачаткоўцам, а з маладым майстрам паэтычнага слова. І, як ні дзіўна, малады майстра не выпінаецца на публіку, а сціпла, і сур'ёзна працуе на бязмежным полі роднай літаратуры.

Калі з чым і параўноўваць вершы В. Базылёвай, то, напэўна, з добра вытрыманым віном, якое мае адмысловы смак і тонкі, панадна-няўлоўны пах, ад якога вее гарадской рамантыкай, якой, на жаль, у сучаснай паэзіі ўсё менш і менш, дзе водар восеньскіх паркаў змешаны з подыхам вясновага ветру, цеплыня сяброўскай кавярні мяжуе з холадам далоняў няўдачлівага прыхільніка, атмасфера пяшчотных сустрэч суседнічае з чыгунным грукатам трамвайных колаў. Дарэчы, трамвай з'яўляецца адным з частых вобразаў маладой паэткі:

*"Трамвай спыняецца на канцавой,*
*на той, што ведае тваё чаканне..."*
*"Звычка пустых трамваяў –*
*шлях прапаноўваць табе..."*

Безумоўна, падобная сімволіка відочна пераклікаецца з вядомым "трамваем" Мікалая Гумілёва, аднаго з любімых паэтаў В. Базылёвай.

Зразумеўшы прыроду вобразнасці паэта, нельга не сказаць пра горад і яго героя, які мае досыць выразны характар ва ўсёй цэльнай канцэпцыі кніжкі. Сам лірычны герой, дакладней, гераіня адкрывае нам свой чуллівы, шмат у чым ранімы, але цудоўны і яркі свет, што ўступае ў канфлікт з гарадской атмасферай абыякавасці і непаразумення. Тэмы пошуку і ратавання свайго сонечнага святла ў мітуслівым месцы і сыходзячай прыгажосці ў горадзе вечнай восені і дэкадансу – яскравыя і асноўныя для паэзіі В. Базылёвай:

*"Прарасту былінкай хворай*
*і ў сумётах буду жыць..."*

Сыходзячы з такога пераканаўчага прыкладу, нельга не сказаць і аб іншых самабытных вобразах паэткі:

*...Рукі клейкія ў сцюжы цукровай...*
*...Мая зямля прапахла небам...*
*...Пальцы стануць струнамі...*

Яшчэ больш нечаканыя і ўражвальныя метафары:

*"Позна.*
*Замерзлі ў вокнах агні..."*
*"Захварэла восень на снег..."*

І безумоўна, вобраз горада і лірычнага героя раскрытыя асацыятыўнай пейзажыстыкай.

*"Звольнена памяць:*
*хадою павольнаю*
*лічыць пакрыўленых*
*лесвіц прыступкі..."*
*"Праз хмурны ранак*
*працягнуты*
*пруткі трамвайных рэек..."*

Аналізуючы ўсю стракатую палітру паэтычнага сусвету Вольгі Базылёвай, пераконваешся ў тым, што беларуская паэзія ў яе асобе набыла не толькі непаўторнага, тонка-чуллівага, пачуццёва-адоранага лірыка, але і яшчэ аднаго майстра г.зв., "Паэзіі чыстай красы" – духу, па якім асабіста я маю настальгію пасля размаітага "адраджэнскага "пафасу і постмадэрновай пустапарожняй траскатні. Чыстая




мелодыя класічнай паэзіі Максіма Багдановіча неаднаразова прыгадвалася мне пры чытанні вершаў Вольгі Базылёвай. Гэта радуе і дае спадзеў на новыя выбітныя сустрэчы з сучаснай беларускай паэзіяй.

**Сяргей ПАТАРАНСКІ**

# БЫЛОЕ — ЧАСТКА СЁННЯШНЯГА

Заўсёды з вялікай цікавасцю чытаю кнігі Алеся Карлюкевіча на гісторыка-краязнаўчую тэматыку, бо даўно ведаю, што ў іх абавязкова знайду для сябе нешта цікавае, звязанае з мінуўшчынай, знакамітымі людзьмі ці значнымі падзеямі, якія адбываліся ў розны час. А яшчэ ўпэўнены, што абавязкова напаткаю матэрыялы, якія тычацца Пухавіцкай старонкі — радзімы пісьменніка, а калі глядзець шырэй — Ігуменшчыны, куды раней адносілася і тэрыторыя цяперашняга Пухавіцкага раёна. Часам А. Карлюкевіч гэтай праблематыцы прысвячае цэлыя кнігі. Не выключэнне і новая — "Былое маё ажывае...", у якой таксама знайшлося месца і пухавіцкаму матэрыялу.

Найперш гэта нарыс, які даў назву ўсёй кнізе. "Былое маё ажывае..." — запрашэнне "зрабіць ... літаратурны экскурс па пухавіцкіх адрасах у Расіі". Адзін з такіх адрасоў Яраслаўль, куды ў 1915 годзе трапіў будучы драматург, ураджэнец вёскі Дукоры, а тады студэнт Мінскага настаўніцкага інстытута Васіль Гарбацэвіч. Ён там меў сустрэчу з Максімам Багдановічам, пасля напісаў цікавыя ўспаміны пра гэта.

Калі В. Гарбацэвіч апынуўся ў Яраслаўлі ў выніку эвакуацыі падчас першай сусветнай вайны, дык празаіка Сымона Хурсіка закінулі ў Расію іншыя дарогі. С. Хурсік, як вядома, быў рэпрэсіраваны. Каб падрабязней даведацца пра выгнанніцкі лёс земляка, А. Карлюкевіч "разаслаў лісты ў Чувашыю, у Марыйскую тады яшчэ АССР, у Караганду". Адгукнуліся з Чувашыі, адкуль прыслалі копію характарыстыкі на настаўніка Канашскай сярэдняй школы Канашскага раёна С. Хурсіка. Гэты адказ і стаў для пісьменніка штуршком, каб падрабязней расказаць пра рэпрэсіраванага літаратара. Але А. Карлюкевіч, выступаючы дапытлівым даследчыкам і зацікаўленым апавядальнікам, не абмяжоўваецца толькі звесткамі, што могуць зацікавіць многіх. Ён адначасова і падказвае далейшыя шляхі захавання памяці аб людзях, якія пакінулі прыкметны след у нацыянальнай гісторыі, беларускай літаратуры. У дадзеным выпадку слушна зазначае: "Мо адна з новых вуліц будзе насіць у Мар'інай Горцы імя Сымона Хурсіка?"

Пытанне не толькі да іншых, а і да самога сябе. Таму яно далёка не рытарычнае. Упэўнены, што А. Карлюкевіч, як гэта і было неаднойчы, зробіць усё магчымае, каб яно вырашылася станоўча.

Гэткім жа клопатным роздумам напоўнены і краязнаўчы нарыс "Беларуская літаратурная Цвер", які мае ярка выражаны даследчыцкі пошук, пры тым у даволі нечаканым аспекце. А. Карлюкевіч паставіў перад сабой задачу прасачыць, як прапісалася ў беларускай літаратуры сама Цвер, а таксама іншыя населенныя пункты цяперашняй Цвярской вобласці Расійскай Федэрацыі. Пачынае ён з таго, што ў 1830 годзе ў Цвер быў высланы Ян Чачот. Пасля называюцца і іншыя прозвішчы: акадэмік Іван Замоцін; крытык, літаратуразнаўца, лінгвіст, педагог Мікола Байкоў; мемуарыст, выдавец Фелікс Сташкевіч; Кандрат Крапіва... Усе яны ў свой час жылі ў гэтым кутку Расіі.

Не абмяжоўваючыся згаданымі прозвішчамі, А. Карлюкевіч імкнецца пабольш расказаць і пра іншых. Пры гэтым спрабуе ўявіць сабе, што хвалявала таго чалавека ў пэўны момант. Прынамсі, у развагах пра Я. Чачота чытаем: "Яну Чачоту было што паглядзець, было што параўнаць з помнікамі Айчыны, Навагрудка, Вільні. Ля вусця Цверкі — Успенскі сабор. На паўднёвай ускраіне горада — Казанская царква. Несумненна, з цікавасцю разглядаў паэт і ўвесь ансамбль кляштара ў гонар Ражства Хрыстова..."

А пакуль застаюцца белыя плямы, не абыходзіцца і без выказвання здагадак: "У ... 1913 годзе Фелікс Сташкевіч трапляе ў Цвер. І ўжо там жыве і працуе да 1919 года. Загадка — ці пісаў што наш зямляк у Цвяры?" Значыць, будуць працягнуты пошукі, а гэта сведчыць на карысць таго, што дзякуючы А. Карлюкевічу мы яшчэ шмат даведаемся пра жыццё беларусаў за межамі Бацькаўшчыны.

Падобныя намаганні пісьменніка нельга не вітаць, як і з'яўленне яго новай кнігі "Былое маё ажывае...".

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**



# РЭХА ВАВІЛОНА

## КРАКАЎСКІЯ ВЕРШЫ

**1**

*На фоне Еўропы здымаецца*
*пані Людміла.*
*Касцёлы працягваюць небу*
*цагляныя пальцы.*
*Цячэ брукаванка, як рэчка —*
*і пані бяссіла*
*Зусім патанула ў марэннях*
*на прывідным пляцы.*
*Ёй Белая Дама паказвае*
*міну мінання,*
*А дзіўны мастак падысці*
*не рашаецца нават.*
*І ў небе Еўропы развеяны*
*прывід кахання,*
*І ў цёмнай кавярні*
*другім наліваецца кава.*
*На фоне Еўропы так добра*
*чагосьці пазбыцца,*
*Напрыклад, віны за бязвінную*
*прагу спакою.*
*Цячэ брукаванка пад колы*
*маёй калясніцы,*
*І я адплываю на хвалях*
*зямных лістабою.*

**2**

*Вавель, Вавель... Рэха Вавілона.*
*Камні Вавілонскія ў траве.*
*Металёвы цмок глядзіць з адхону,*
*Неба па-над вежамі плыве.*
*Сутарэнні — цені павуціння.*
*Сцены — увасобленыя сны.*
*І кароль з патрэсканай карціны*
*Пазірае, быццам сон сцяны.*
*Я між гэтых сцэнаў прарастаю*
*Дзікім глогам — каб вярнуцца зноў*
*У касцёл, які ў сабе хавае*
*Каралёў, паэтаў, ваяроў.*
*Я жыву між ценяў — і карцінаў,*
*І дамоў вяртацца — сэнс малы.*
*Заплятае сцены павуцінне,*
*Быццам Боны Сфорцы позірк злы.*

**3**

*Паэт і кароль у касцёле*
*адным пахаваны.*
*Іх веліч зямная зраўнялася*
*чарай нябеснай.*
*І срэбныя сэрцы ў капліцы*
*Нябеснае Панны —*
*Ахвяры за вершы*
*або за жаўнерскія лёсы.*
*Жыве ў сутарэннях сугучча*
*халоднае рэха.*
*А зброя звінела дарэмна,*
*бо гукі растаялі.*
*Па горадзе сёння блукаюць паэты,*
*і снегам*
*Замецены сцежкі герояў*
*забытае славы.*
*Ні вершаў, ні зброі не выбраў*
*заснежаны горад*
*У вечным двубоі з нябытам;*
*ён — рыцар камення;*
*І ноч над касцёлам глыбокая,*
*нібы пячора,*
*І спяць у касцёле радзімы*
*далёкія цені.*

**4**

*Гатэль "Залатая ружа"*
*мяне не прыме ніколі.*
*Пакоі яго для іншых*
*люляюць меднае рэха.*
*Марэнне маё вандруе,*
*а я застаюся ў полі,*
*Дзе воўк выпівае Свіслач,*
*І снег, нібы смерць, на стрэхах.*
*Гатэль "Залатая ружа"*
*купцам засцілае ложкі.*
*Сядзіць вандроўны паэта*
*на ганку, нібы на пласе.*
*А я застаюся ў лютым,*
*між Нёмнам, Дняпром і Сожам,*
*І места маё спаўзае*
*ў вясну ільдзяною масай.*
*Але — па далёкіх вулках*
*у панцыры брукаванкі*
*Душа мая ўсё вандруе,*
*плыве ад вежы да вежы.*
*Гатэль "Залатая ружа".*
*Паэт на каменным ганку.*
*Над Вавелем Зорны Вознік.*
*Лёд існасці пальцы рэжа.*

## ВЫЗВАЛЕННЕ

*Ну а здавалася, гэты палон —*
*на вякі.*
*Цмок падыхае ля ног*
*прыгажуні суровай.*
*Рыцар чакае, стамлёны,*
*у латах цяжкіх*
*З гербам лілейным,*
*майго літасцівага слова.*
*Што адказаць табе,*
*мой непахісны герой?*
*Кроў на мячы высыхае,*
*і высахлі слёзы.*
*Я палюбіла свой*
*закратаваны пакой*
*І цішыню, у якой нараджаюцца*
*крозы.*
*Ну а цяпер — за табою*
*сядзець на кані,*
*Вабнай здабычай і сведчаннем*
*воінскай моцы...*
*Цмок падыхае. Згасаюць*
*на вежах агні.*
*Не разумее маўчання*
*майго абаронца.*
*Ціха пагладжу рукой*
*залатую луску*
*І азірнуся з тугою на чорныя вежы...*
*Кроў іржавее на жоўтым*
*халодным пяску.*
*Ты памыліўся, ваяр.*
*Я табе не належу.*

•

*Даравацъ усім. Усё прыняць,*
*Як зямля прымае ўсіх без жалю.*
*Сэрца скача, як сляпы паяц,*
*Хоць глядач даўно пакінуў залю.*
*І няма каму прыняць твае*
*Высілкі вясёлым быць і смелым.*
*Сэрца скача, як п'яны паэт*
*На эстрадзе ў парку апусцелым.*

•

*Мы шукаем адзін аднаго,*
*быццам птушкі ў віхуры.*
*Мы, як птушкі, збіваемся*
*ў зграйкі —*
*сагрэцца і выжыць.*
*Ды, каб выстаяў дом,*
*Нашы сэрцы паклалі ў падмурак,*
*І запоўнены стогнамі*
*Ў сценах каменных нішы.*
*Над высокімі вежамі*
*рвуцца на часткі аблокі,*
*Мы не мелі прытулку,*
*які падарылі камусьці.*
*І даворвае час па-за нашымі снамі*
*валокі.*
*І пасеецца зерне,*
*І нас у калоссях не будзе.*

## СЯБРУ, ЯКІ СУМУЕ ПА СЛАВЕ

*Так, нас падымуць калісь.*
*Як штандары.*
*І ўславяць. І ў глыбокі кінуць дол.*
*Ты не жывеш,*
*а ўсё пра гэта марыш.*
*А час ідзе, ступае, быццам вол,*
*Па чарапках чырвона-чорных вазаў,*
*А баразна засеяна касцьмі.*
*Хто не трапляў пад капыты*
*ні разу —*
*За славу не змагайся між людзьмі.*
*Ах, як карціць нам тая куламеса —*
*Прыўзняцца, над галовамі ўзляцець*
*У небасхіл, як Бахаўская меса,*
*І пераблытаць мітусню і смерць.*
*Ах, як карціць — прыўзняцца*
*хоць на хвілю,*
*Пастукацца ў нябёсы... Дружа мой,*
*Шлях да нябёс пачнецца*
*над магілай.*
*Жывы паэт, як і жывы герой —*
*Не больш чым цень*
*ад пасмяротнай славы*
*Ці ўспышка перад цемрай забыцця.*
*І чэзнуць нашы словы,*
*быццам травы,*
*Ад крыўднай немагчымасці жыцця.*

## ПАЭТ

*Паэт сівыя лашчыць камяні.*
*І не таму, што мала дам прыгожых.*
*Кладзецца вецер у каменны ложак*
*І задзімае зорныя агні —*
*Паэт сівыя лашчыць камяні.*
*Чытае ім абвугленыя вершы,*
*І не таму, што слухачоў няма*
*Сярод жывых; але жывым — дарма*
*Казаць пра боль...*
*Для іх ты — толькі грэшнік,*
*Што ім — паэт,*
*апошні ён ці першы...*
*Вар'ят, няйнакш...*
*У полі галасіў,*
*Крывавіў сэрца аб глухія глыбы...*
*Прыгорблены, пайшоў...*
*Ссівелым німбам*
*Свяціліся пад поўняй валасы.*
*...І камяні за ім, п'яным, ахрыплым,*
*Каціліся, бы кропелькі расы.*

## ДА ПЫТАННЯ "ЧЫСТАЕ КРАСЫ"

*Перацякае срэбны век*
*У кулю — і трапляе ў сэрца.*
*Красы шукае чалавек —*
*І ваўкалакам застаецца.*
*Сыходзіць чыстая краса*
*Не да красы — а да пакуты,*
*Да зморшчын, у якіх сляза*
*Блішчыць, як кропелька атруты.*
*Навошта гэты прывід мне?*
*Уласны век лічыць зыродствам?*
*А нават ценем мільгане —*
*Жыць без яе — самазабойства.*
*Жыць — і не бачыць, як яна*
*Цвіце валошкамі Айчыны...*
*І век сплывае, бы труна,*
*За той красою немагчымай.*

•

*Паляванне на ведзьмаў —*
*вясёлы занятак.*
*Мерзлы бруд б'е фантанамі*
*з-пад капытоў.*
*Хто на свет нарадзіўся —*
*ужо вінаваты.*
*Вінаваты стакроць —*
*хто ў загон не пайшоў.*
*Запаўняецца неба пачварамі з дыму*
*Ад кастроў, у якіх*
*нашы вершы гараць.*
*Паляванне на ведзьмаў*
*імчыць па радзіме,*
*Быццам можа нянавісць*
*яе ўратаваць.*
*Апраўданняў не слухае*
*пан інквізітар.*
*Дух пячоры. Дым вогнішчаў.*
*Немасць людзей.*
*І за брамай пакутліва*
*моліцца мытар,*
*І бліскучы алтар беражэ фарысей.*

•

*Ты даў мне хлеб, мой гаспадар, але*
*Ён у камень ператвараўся ў доме.*
*Служыць патрэбна, трэба*
*— ацалець*
*І камянёў сабраць сабе на помнік.*
*А знічкі ўсё лятуць —*
*па-над жнівом,*
*Па-над каменным выраем мястэчка.*
*І камяні я зноў прынашу ў дом,*
*І шырыцца вакол яго пустэча.*

•

*Хоць уласнай крывёй пішы —*
*а яны падумаюць — фокус.*
*Мала жыць, для таго, каб быць*
*ім цікавым — памерці трэба.*
*Не пяройдзеш сваю мяжу;*
*Не зірнеш праз чужое вока.*
*Без Харона не пераплысць*
*Чорнай рэчкі і наша неба.*
*У далонях паднесці мёд*
*да каханых сасмяглых вуснаў*
*і ўсвядоміць: запозна ўсё.*
*Толькі воцат яму давалі.*
*І сплывае за годам год.*
*І ўсё менее беларусаў.*
*І кароткі, як верш Басё,*
*шлях, які мне падаравалі.*

# НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

**Іван ШАМЯКІН**

## Асуджэнне за талент

Гадоў дваццаць пяць быў я членам праўлення выдавецтва "Советский писатель". І з'яўляўся я на Вялікі Гнезднікоўскі завулак, 10, у Маскве не проста прадстаўніком, як некаторыя мае калегі ад іншых рэспублік СССР, а ехаў туды ўзброены веданнем кніг і актыўна, дзейсна прабіваў творы сваіх калег у перакладзе на мову вялікага народа. За час маёй дзейнасці ў праўленні ад Украіны змянілася чалавек шэсць. Першы быў Міхайла Стэльмах. Ён, як правіла, сядзеў і глыбакадумна маўчаў, рэдка калі адстойваў уключэнне ў план кніг сваіх братоў-украінцаў. Я зрабіў выснову: не чытаў Міхайла калег-празаікаў. Пасля яго з'явіўся гаваркі Мікола Зарудны, драматург. Выступаў часта, але не прафесійна. Дырэктар выдавецтва, старшыня праўлення Мікалай Васільевіч Лесючэўскі (пасля ён прызнаваўся мне) не верыў Заруднаму, бо, тонкі псіхолаг, адчуваў: не чытаў Мікола кнігі, якія рэкамендаваў. Пасля быў львоўскі паэт Расціслаў Братунь; той змагаўся прафесійна за паэтаў; што датычыць празаікаў, то шчыра прызнаваўся: не чытаў. Гэта раздражняла гарачага, дзейснага Лесючэўскага, ён абураўся: "Чаму ж ты едзеш, калі не чытаў?" І, напэўна, таму, што я ўсіх сваіх прачытываў, цаніў і любіў членаў праўлення ад Беларусі.

Часам зараз, у старасці, у бяссонніцу, я думаю: "А што я зрабіў карыснае?"

Для каго? Для чытачоў — напісаў раманы, якімі яны ў свой час зачытваліся (як чыталі "Глыбокую плынь", "Сэрца на далоні" — гэты раман выйшаў у "Раман-газеце" тыражом у мільён экземпляраў; лісты прыходзілі з усіх куткоў велізарнай краіны). А для калег сваіх за час, калі выбіраўся намеснікам старшыні, сакратаром, першым сакратаром Саюза пісьменнікаў, таксама чвэрць стагоддзя? Смела, не перабольшваючы ролі сваёй, ганаруся дзвюма акцыямі: выбіў добрую сотню кватэр і памог убачыць свет па меншай меры дзвюм сотням кніг у перакладзе на мову, дзякуючы якой творы станавіліся даступнымі перакладчыкам, чытачам у многіх краінах свету. Бо перакладчыкаў з беларускай — колькі іх было? Адзінкі — у Балгарыі, Польшчы, Чэхіі, Германіі, два чалавекі ў Англіі. Нашы эмігранты з Беларусі ў ЗША не рабіліся англамоўнымі пісьменнікамі. Што пераклалі Арсеннева, Сяднёў? Яны баяліся савецкай літаратуры, як чорт ладана.

Пра кнігі я яшчэ буду пісаць — у гэтай ці іншай навеле ўспамінаў. Пра кватэры... Тое галоўнае, што трэба кожнаму чалавеку, каб жыць, нараджаць і расціць дзяцей, пісаць кнігі. Як яны дабываліся — кватэры? Будаваліся за кошт сродкаў Літфонду СССР. Выбіць грошы ў сакратара СП СССР, старшыні праўлення Літфонду Юрыя Верчанкі не было самай складанай задачай: грошай хапала. Якія дамы творчасці будаваліся! Праблема была ў іншым. Грошы, як правіла, Верчанка выдаваў "голыя" — без будаўнічых лімітаў, якія размяркоўваў Дзяржплан СССР. Але былі і рэспубліканскія ліміты. Задача наша — выбіць іх пад атрыманыя ад Масквы грошы. Паверце, вельмі складаная задача! Колькі парогаў прыйшлося абабіць, нізкіх і высокіх.

Прыгадваецца адзін выпадак.

Папрасіў у Верчанкі грошай. Юрый Міхайлавіч не задумаўся нават:

— Асвоіце паўмільёна без лімітаў? Узбекістан не асвоіў. Вярнуў.

Адкуль узялася мая ўпэўненасць?

— Асвоім!

І пачалося маё "хаджэнне па пакутах".

Старшыня Дзяржплана Коханаў кінуў злосна трубку "вяртушкі", сказаўшы:

— Вы — наіўны чалавек!

Віцэ-прэм'ер Іван Клімаў хацеў памагчы — не здолеў, мацюкнуў смачна і планавікоў, і будаўнікоў:

— Прапівай свае грошы: з гэтымі дубаё... не дамовішся.

Але ж ёсць сіла на коханавых. Пятро! Дамогся прыёму ў Машэрава.

Выслухаў Пятро Міронавіч маю просьбу, паглядзеў спіс членаў СП, якія жылі ў нечалавечых умовах, — я ўзброіўся, не з пустымі рукамі прыйшоў. Здзівіўся, што і Панчанка сцяснёна жыве. Спытаў пра тых, каго не ведаў, —што напісалі. Пахадзіў па кабінеце, цыгарэты тры выкурыў. Набраў "тройку" — вышэйшы ўрадавы тэлефон.

— Піліп Лаўрэнцьевіч?

— Слухаю, Пятро Міронавіч, — недасканалая сувязь: чуваць, што адказвае той, каму тэлефануюць.

Некароткая размова пра Наваполацк, пра будаўніцтва цаглянага завода. І — нечаканае пытанне:

— Ты Шамякіна знаеш? — паслухаў Пятро адказ, маргнуў мне: — Ну во, раманы чытаеш, а памагчы не хочаш. Яму раманы пісаць трэба, а ён ходзіць па нашых кабінетах. Памажы! — і, паклаўшы трубку, да мяне: — Паможа.

— Шчырае вам дзякуй, Пятро Міронавіч. Ад усіх пісьменнікаў.

СП знаходзіўся яшчэ ў доме, у якім Осіпава і Мазанік пакаралі фашыста Кубэ, — два крокі ад ЦК. Толькі ўвайшоў я ў кабінет — "вяртушка", нават званок злосны. А голас проста гнеўны:

— Што вы там лазіце па вярхах! Дзе я вам вазьму ліміты? Я адарву ад вашых землякоў-гамяльчан і скажу: вы ў іх укралі!..

— Піліп Лаўрэнцьевіч, не дадзіце — зноў пайду на пяты паверх. А пра вас напішу ў рамане — які вы "добры"...

Ён злосна кінуў трубку.

Даў будаўнічы ліміт, але толькі на 400 тысяч, сто тысяч "зажуліў".

Калі трохі абжыліся, апетыты выраслі: трэба паляпшаць умовы тым творцам, якія сталі лідэрамі "літаратурнай гонкі". А як паляпшаць? Грошы нашы ўкладаюць у "хрушчобы" — жыллё для беднякоў. Але ж будуюцца і прэстыжныя дамы — для эліты. Будуе іх ЦК, Саўмін. Там трэба выбіваць! Любым спосабам — з грашыма, без грошай. Максім Танк не любіў і не ўмеў хадзіць па інстанцыях. Стратэгію і тактыку выпрацоўваў і ажыццяўляў я. Самае простае напісаць лісты Пятру, Ціхану. Гэта я ўмеў; Марцалеў неяк сказаў, што ўмею я слязу пусціць. Пісьмы не ідуць без затрымкі наверх, дарога іх пакручастая. Просім новы часопіс — трэба пачынаць з Марцалева, з Кузьміна, іх пераканаць, маральна падрыхтаваць. Просім кватэры — нельга абысці кіраўнікоў справамі — Машкова, Самбука, Краеўскага. З ідэолагамі я ўмеў і любіў гутарыць, яны, як правіла, дэмакратычныя. Але як цяжка было гутарыць з пыхлівымі гаспадарнікамі! Прытым ведаў: абыходзіць іх ні ў якім разе нельга, не паклонішся ім — сарвуць просьбу, пераканаюць і Машэрава, і Кісялёва, што выдаць дзве-тры кватэры пісьменнікам няма ніякай магчымасці. Памагала веданне псіхалогіі высокіх чыноўнікаў: не адным міністрам 4-5-пакаёвыя кватэры, але і творцам культуры — пісьменнікам, мастакам, кампазітарам. Гэта маскіравала прывілеі партыйна-савецкай эліты. З цягам часу я асмельваўся далікатна нагадваць пра гэта, не першым — іх памочнікам, таму ж дэмакрату Кузьміну ці "нігілісту" Клімаву, які дазваляў пагутарыць з ім на любую тэму і, сам высокі чыноўнік, віцэ-прэмьер, генерал, камандзір партызанскага злучэння, мацюкаў чыноўнікаў (як мой дзед Міна членаў сваёй сям'і), але ніколі не чапаў тых, хто знаходзіўся на вышэйшай усходцы іерархічнай лесвіцы. Кіраваў Хрушчоў — ні слова пра яго, скінулі Мікіту — Іван Фролавіч гадзіны дзве забаўляў нас з Макаёнкам, расказваючы пра хрушчоўскія вывіхі і дурноты. Дзіўна: гумарыст Макаёнак любіў Хрушчова і пасля вельмі не любіў Леаніда Ільіча: "Толькі ў нас мог прабрацца на царскае месца такі Дуб Дубовіч". Не дажыў Андрэй: паглядзеў бы, хто прабіраецца да ўлады ў наш "дэмакратычны" час. Не, не дубы — злодзеі тыпу Мішкі, Барыскі з "сям'ёй".

Аднак занесла мяне ад кніг у турботы кватэрныя. Ды пра тое, што давала калегам умовы для працы — кватэры — і славу — кнігі, — успамінаць прыемна. Пра працу маю ў "Советском писателе" асабліва прыемна.

Магу сцвярджаць, што сёння, ва ўмовах дэмакратыі, любыя дэмакраты могуць пазайздросціць той дэмакратычнасці, з якой праходзілі пленумы "Советского писателя" па зацвярджэнні выдавецкага плана на наступны год. А ў планах гэтых у тыя далёкія 60—70-я гады было да 400 назваў кніг паэзіі, прозы, крытыкі рускай і ўсіх рэспублік, саюзных і аўтаномных.

Я часам (рэдка) не з'яўляўся на пленумы, на якіх абмяркоўвалі выпушчаную прадукцыю ці ўнутрывыдавецкія, творчыя, арганізацыйныя праблемы. Але не помню, каб прапусціў хоць адзін лёсавызначальны пленум — зацвярджэнне плана. Пленумы такія праходзілі два дні, а тое і тры, працавалі з дзесяці раніцы да васьмі вечара. Захапляў Мікалай Васільевіч сваёй нястомнасцю, энергіяй. Здаралася, што масквічы, пераважна крытыкі, прадстаўнікі розных груп (групаўшчына працвітала, асабліва ў Маскве), ушчыналі зацятую спрэчку па той ці іншай кнізе, звычайна крытычнай, літаратуразнаўчай. Лесючэўскі ўважліва выслухоўваў супрацьлеглыя думкі і, калі



ніводная група не пераважала, выносіў "вердыкт":

— Пераносім дыскусію на заўтра. Бяру рукапіс. За ноч прачытаю.

А рукапіс аркушаў 15-20. Як можна прачытаць столькі пасля напружанага дня? Прачытваў. І з ім рэдка спрачаліся нават акадэмікі.

У апошнія 10-15 гадоў, калі я, як кажуць спартсмены, "нарасціў мускулы", асмялеў, набыў аўтарытэт, асабліва ў Лесючэўскага, мне ўдавалася ўключыць у план па 12-15 беларускіх кніг (Грыгал Абашыдзе прабіваў 3-4 — з развітай грузінскай літаратуры).

Помню толькі адзін "чорны год" — 8 кніг. Не мая віна. План рабіўся законам пасля зацвярджэння яго прэзідыумам Саюза пісьменнікаў СССР. Зацвярджэнне там было фармальным, карэктывы — рэдкія. Але тут раптам выступіў кансультант па ўкраінскай літаратуры Іван Карабутэнка і выказаў здзіўленне-абурэнне:

— Як атрымалася, што ўкраінскіх кніг у плане менш, чым беларускіх? Якая Беларусь! І якая — Украіна!

Як атрымалася? З-за пасіўнасці саміх украінцаў: іх прадстаўнік не прысутнічаў на пленуме выдавецтва і маскоўскія ўкраіназнаўцы не заняліся матэматыкай. Кансультант па нашай літаратуры Міхась Гарбачоў пасварыўся са сваім сябрам: некарэктна так ставіць пытанне — " Якая Беларусь і якая —Украіна!" Вялікая Украіна, і пісьменнікаў у яе ў пяць разоў больш — у той час. Але, мабыць, не дбалі яны пра выданні на рускай мове. Таму і мяняліся іх прадстаўнікі, і не з'яўляліся яны на пленумы, на якіх зацвярджаўся гадавы план.

Позняя восень. 1958 год. Я яшчэ адносна малады член праўлення — чацвёрты раз прыехаў. І значок лаўрэацкі пасля XX з'езда прыйшлося пакінуць дома. Але падрыхтаваўся я да пленума грунтоўна. Ды ў першы дзень працы не дайшлі да нацыянальнай літаратуры: рускія актыўнічалі, паводле вынікаў XX з'езда ламалі план.

Позна вярнуліся ў гатэль. Размяшчаў нас Лесючэўскі ў кожны прыезд прэстыжна. У той раз — у новай гасцініцы "Украіна", высотнай. Мяне памясцілі ў адзін нумар з выдатным паэтам, цікавым чалавекам, бадай земляком — Мікалаем Рыленкавым, смалянчанінам, патрыётам свайго горада: не паехаў следам за Ісакоўскім і Твардоўскім у Маскву, хоць рэдактар "Нового мира" і запрашаў яго.

Позна спусціліся ўніз — у рэстаран павячэраць. Зала перапоўнена. Добрая адміністратарка пасадзіла нас за службовы столік каля ўваходу на кухню. Шэсце афіцыянтаў з поўнымі і пустымі падносамі нас не раздражняла, кухонныя пахі давалі Мікалаю Іванавічу прыступы кашлю, ён забіваў іх бясконцым курэннем. А мне месца падабалася — двое за сталом, ніхто не перашкаджаў пагутарыць на любыя тэмы. Уласна, тэма была адна — літаратура. Рыленкаў ведаў усе "тайны мадрыдскага двара" — маскоўскага ў "Доме Растовых" (так называлі будынак на Вароўскага, 52, дзе размяшчаўся Саюз пісьменнікаў СССР). Ён расказваў мне тое, чаго не ведаў наш Анатоль Вялюгін, які, здавалася, усё ведаў. Што значыцца быць на 300 вёрст бліжэй да Масквы! Я слухаў суседа, стаіўшы дыханне; яго расказ для мяне — Літаратурны інстытут.

Нам доўга не падавалі, хоць сядзелі мы каля кухні і заказ наш нябедны, бадай багацей за тыя, што ўрачыста праносілі міма нас афіцыянткі-каралевы. Я не прагнуў хутчэй накінуцца на ежу, хоць у выдавецтве даўно, пасярод дня, жавалі бутэрброды з сухой каўбасой і пілі нясмачны чай. Баяўся я, што гарэлка і закускі пераб'юць рыленкаўскі расказ. А мяне ў той час не кармі, а дай паслухаць пра прыгоды на Алімпе і пра багоў, што жывуць там. Расказчык быў адмысловы, выдаваў не маскоўскія плёткі — "адна баба сказала", — а факты, якія не выклікалі сумнення і якія былі дасканала асэнсаваны разумным чалавекам, і не са сваёй званіцы — з вышыні палітычных падзей апошніх гадоў. У гэтым мы з Рыленкавым былі аднадумцамі, разыходзіліся хіба ў дэталях, скажам, ён, не ў прыклад мне, ухваляў не ўсе пачынанні Хрушчова. Я згадзіўся з ім пазней.

Многа распавядаў пра рускіх паэтаў, якім пашчасціла вярнуцца з далёкіх краёў; за гэта хваліў Хрушчова. Да чаркі яшчэ ўраніў слязу, расказваючы пра ўчарашнюю сустрэчу з даваенным сябрам сваім Яраславам Смеляковым.

Нарэшце падалі вячэру. Пры заказе мы разышліся ў адным: я любіў каньяк, Рыленкаў — гарэлку: бяскрыўдна высмеяў мой "арыстакратычны" густ. І з таго, як я піў, засмяяўся:

— Як нашы бабы — маленькімі глыткамі.

Сабе ён наліў у фужэр і выпіў прагна, як касцы п'юць ваду ў спякотны дзень.

І чаго баяўся я — здарылася: неяк адразу здрабнеў паэт, тэарэтык літаратуры, рыторык, пачаў "малоць" дробнае зерне на шчарбатых жорнах.

Мы выпілі адну пляшку, заказалі дадатак у графінчыку — грамаў дзвесце.

— Заўтра працаваць, — сказаў Рыленкаў.

— Мне добра прыйдзецца папрацаваць. У цябе колькі членаў? — Мы перайшлі на "ты", ён першы, без дамовы. — А ў мяне без малога паўтары сотні. Тры дзесяткі рукапісаў у Кір'янава ляжаць, — Сяргей Кір'янаў, дзівосны мардвін, узначальваў рэдакцыю літаратур народаў СССР.

— І я ў адказе не за дзесятак смаленскіх паэтаў — за ўсю расійскую паэзію, — і даў знішчальную ацэнку модным паэтам: — Гаўняная паэзія пайшла.

Гарэлка ператварыла чалавека: надзвычайны дабрак, які, калі быў цвярозы, плакаў над лёсам сваіх калег, а тут зрабіўся злосны, успамінаў уласныя крыўды, лаяў рэдактараў і асабліва крытыкаў; аднаго нейкага (не помню прозвішча) так мацюкаў, што афіцыянтка зрабіла заўвагу:

— У буфеце ўсё чуваць.

Гэта сцішыла нас і пад градусам. На другі вечар, пасля надзвычайнай падзеі, Рыленкаў папярэдзіў мяне:

— Маўчым! Усе "вушы" ў рэстаранах.

Рыленкаў сядзеў тварам да залы, я — спінай. І раптам ён радасна падскочыў:

— Саша!

Я аглянуўся. З глыбіні залы ішоў Аляксандр Твардоўскі (яго я ведаў, ён прыязджаў да нас, ды і бачыў на з'ездзе ў 1954 годзе), з ім яшчэ адзін чалавек.

Рыленкаў і Твардоўскі моцна абняліся, па-брацку пацалаваліся. Землякі.

(Заканчэнне на стар. 14 — 15)

# СТРЭМКА, АД ЯКОЙ НЕ ПАЗБАВІЦЦА

***Першы дзень вясны мінскі Тэатр кінаакцёра сустрэў прэм`ерай спектакля "Стрэмка" паводле п`есы французскай пісьменніцы Франсуазы Саган. У пастаноўшчыка Мадэста Абрамава атрымаўся лёгкі, вытанчаны і вельмі кранальны спектакль, які дае падставы і пасумаваць, і пасмяяцца.***

***Гэтая "п`еса ў адной дзеі", як вызначаны жанр спектакля, сталася сапраўдным бенефісам для заслужанай артысткі РБ Святланы Сухавей, што выконвае ролю цудоўнай жанчыны, але няўдачлівай актрысы Элізабет Мадран, тэатр для яе, як стрэмка, ад якой ужо не пазбавіцца.***

"У кожнай жывой істоце ёсць нешта цудоўнае. Але часам гэтае цудоўнае ніхто не бачыць, і толькі таму, што ніхто не шукае", — з сумам піша Франсуаза



Саган і бярэцца выправіць гэтую несправядлівасць. Яе гераіня Элізабет Мадран, кранальная фантазёрка, нястрымна закаханая ў тэатр, пакутуе ад няўвагі і неразумення з боку свайго даўняга каханка рэжысёра Івана (яго ролю выконвае Аляксандр Цімошкін). Але актрыса, якой з-за траўмы ніколі больш не выйсці на сцэну, цярпліва вытрымлівае ўсе нягоды, што прыносяць беднасць і адзінота. Яна жыве ўспамінамі і надзеяй. І яе цярпенне ў рэшце рэшт аказваецца ўзнагароджаным – Элізабет сустракае такога ж апантанага тэатрам чалавека, як і сама, звычайнага калідорнага Люсьена (Пётр Юрчанкоў-малодшы). Для гэтага захопленага і наіўнага юнака яна прыдумвае цэлы свет, у якім яна — вялікая актрыса, што мужна адмовілася ад раскошы дзеля больш поўнага ўвасаблення ў ролю беднай жанчыны. Гераіня Святланы Сухавей пакарае гледача энергіяй і аптымізмам. А падман... Юнак-калідорны робіць з яго не па ўзросце разумную выснову: нават калі гэты свет вялікай сцэны, натоўпу прыхільнікаў і геніяльных роляў прыдуманы ад першага да апошняга слова, гэтая няпраўда дае падставу марыць. А з марай жыць заўсёды лягчэй.

Вікторыя БАРТКЕВІЧ

*НА ЗДЫМКУ: заслужаная артыстка РБ Святлана СУХАВЕЙ у ролі Элізабет МАДРАН.*

## «ТЭАТР П'ЕСЫ» ПРАПАНУЕ

Працягвае сваю дзейнасць мінулагодні праект Купалаўскага тэатра пад назвай "Тэатр п`есы". Нагадаем, што пад гэтай маркай на Малой сцэне тэатра праходзяць сцэнічныя чытанні п`ес сучасных драматургаў, чые творы дагэтуль нідзе не ставіліся і не друкаваліся. Падставай для чарговых чытанняў стала першая п`еса сцэнарыста беларускага тэлебачання Вольгі Шчукінай. П`еса "Ваш ход, калега!" — пра сучасных людзей, пра каханне, пра жыццёвы лабірынт, дзе толькі адзін калідор вядзе да святла. Пра тое, што кожны сам павінен знайсці гэты шлях. Працавалі над п`есай пачынаючага драматурга купалаўскі рэжысёр Уладзімір Савіцкі і маладыя акцёры Кацярына Яворская, Юлія Міхневіч, Аляксандр Паўлаў, Міхаіл Зуеў, Яна Русакевіч, Раман Падаляк і Павел Яскевіч.

Марына ПРАЦКО





# ГЕНІЙ ДА МЕСЦА

***Пасля прагляду новага дакументальнага фільма "Геній месца" ("Беларусьфільм", 2002 г.) чыноўнікі з Міністэрства культуры зрабілі выснову: такое кіно непатрэбна народу. Але на вечары аўтарскага кіно Галіны Адамовіч, стваральніцы "Генія месца", сабралася поўная зала людзей (у асноўным — празукаватай моладдзі), якія глядзелі стужкі Адамовіч з цікавасцю, уважліва, пажадаўшы рэжысёру напрыканцы кінапаказу здымаць фільмы яшчэ.***

Даўно не атрымлівалася такой эстэтычнай, інтэлектуальнай асалоды ад айчыннага кіно. Ведаючы папярэднія дакументальныя стужкі Г. Адамовіч, шчыра прызнаюся, што "Геній месца" — адна з лепшых. А чаму гэты фільм не спадабаўся чыноўнікам ад культуры (па словах рэжысёра, карціна вельмі доўга прымалася Мінкультам, творцу было рэкамендавана выразаць нават пэўныя кінакадры (напрыклад, у які трапіў Палац Рэспублікі), аб адсутнасці якіх цяпер Галіна вельмі шкадуе) — ясна, як божы дзень. Аўтарскі, удумлівы погляд на ўсіх нас, пошук месца душы беларуса, якая "міма раю прайшла", суб'ектыўныя пачуцці, разважанні — усё гэта адлюстравана дастаткова наватарскай кінамовай, якую чалавеку з традыцыйным мысленнем упадабаць даволі цяжка.

Несумненна, "Геній месца" — кіно эксперыментальнае. У адным фільме цудоўным чынам стасуюцца як дакументальныя, так і пастановачныя, ігравыя здымкі, а таксама кадры кінахронікі, фотаздымкі. Але перад намі не эклектыка, а цуд мантажу, з дапамогай якога склаліся ў адзін цэласны твор на першы погляд не суадносныя рэчы. І таму карціна глядзіцца з цікавасцю, прагльнаючы гледача, падпарадкоўваючы яго свядомасць свайму дзіўнаму тэмпарытму, настрою, думцы.

У стужцы няма слоў. Але Г. Адамовіч, як аўтару сцэнарыя і рэжысёру, удаецца на экране немагчымае: наблізіць бясслоўны кінааповед да ўзроўню глыбокай шматслоўнай кнігі. Праўда, тут размову з гледачом вядуць непаўторнае па кампазіцыі ад-



# СКАНДАЛІСТ У ПОШУКАХ РАЮ

***За апошні год імя Андрэя Курэйчыка выклікала больш нараканняў і ўхвалаў, чым якое іншае ў тэатральным свеце. Маладому юрысту-прававеду без спецыяльнай тэатральнай адукацыі ўдалося амаль немагчымае — прымусіць мэтраў айчыннай сцэны з нецярпеннем і асцярогай чакаць яго ных нясумных рэцэнзій у "БГ", а мэтраў расійскай — выкупляць правы на яго ныя п`есы. Прадуманая PR-кампанія па раскрутцы сваёй творчасці выклікала віхуры эмоцый у прэсе і калятэатральных колах. Многія не змаглі дараваць Курэйчыку не столькі творчую пладавітасць і моцартаўскую лёгкасць у напісанні п`ес, колькі яго ную прамалінейнасць у ацэнцы сучаснага стану айчыннай сцэны. У тэатральную крытыку ўварваўся малады воўк, які адразу ж пачаў пакусваць і расшавольваць статак, што так прызвычаіўся да соннага спакою і традыцыйных ухвалаў. Дайшло нават да таго, што цяпер за любым крытычным словам многім бачыцца бляск курэйчыкавых акуляраў. Гэта выклікала ў мяне жаданне пазнаёміцца з яго най творчасцю. Таму, для пачатку, накіруемся ў Купалаўскі.***

Згадзіцеся, быў дэбют для драматурга-пачаткоўца прыкметны — першая сцэна краіны, пастаноўшчыкі — лаўрэаты Дзяржпрэмій Валерый Раеўскі і Барыс Герлаван, папулярнейшыя акцёры. І героі спектакля — не якія-небудзь бандыты ці букалічныя сяляне, а першыя людзі, біблейскія Адам і Ева з сынамі Каінам і Авелем. Білеты "на Курэйчыка" былі раскуплены задоўга да трох прэм`ерных спектакляў "Згубленага раю". Паглядзелі. Камусьці спектакль падаўся сумным і крамольным, камусьці — важным этапам у развіцці тэатра. І сапраўды, "Рай" прыкметна адрозніваецца ад звыклай драматургіі Купалаўскага тэатра. Ён разлічаны не на забаву падлеткаў, а на сур`ёзную, удумлівую публіку. Тут валадарыць не гукі з фарбамі, а слова і думка. Курэйчыка часта абвінавачваюць у несцэнічнасці яго ных п`ес, у няведанні законаў сцэны. І сапраўды, дзеяння тут няшмат. Атрымаўся спектакль, які можна толькі слухаць, нават не ўзіраючыся на сцэну. Але паглядзець усё ж такі раю, бо там — незвычайна сталая і сур`ёзная Святлана Зелянкоўская (наша слынная Анастасія Слуцкая), манументальна-трагічны Мікалай Кірычэнка, філасафічна-вытанчаны Ігар Дзянісаў і магутны Андрэй Кавальчук. Мастак Барыс Герлаван даў у распараджэнне біблейскім героям толькі нешматлікія пабытавыя прылады прашчураў ды два скрыжаваныя памосты-шляхі, кожнаму з братоў — свой.

Курэйчык прапанаваў сваю, адрозную ад артадаксальнай версію біблейскіх падзей. Ён шакіруе адпачатку — мірная размова маці з паважлівым сынам пра сына жорсткага і свавольнага аказваецца размовай пра... Авеля. Гэта не ціхмяны біблейскі пастух, а жорсткі і нахабны паляўнічы. Яму не патрэбен рай, па якім так смуткуе яго ны бацька. Для Авеля рай там, дзе ежа і цёплы дом. "Калі цябе выгналі з раю, трэба жыць там, дзе жывеш, і быць шчаслівым", — вось і ўся немудрагелістая філасофія "божага абранніка". Гэтай жыццёвай пакорнасці і не прымае філосаф Каін. Менавіта ён па п`есе — сапраўдны абраннік Бога, гэта яму прапанавана вяртанне ў жаданы Эдэм. І ён жа





— бунтар, які не жадае быць толькі цацкай, што "не ведае, навошта жыве, не ведае, якую з божых задум ён павінны ажыццявіць". Усё ў п`есе перакулена да гары нагамі, але... Але Каін зноў забівае Авеля, даючы людзям, паводле аўтарскай задумы, выбар паміж дабром і злом замест сляпой пакорлівасці. І выпраўляецца на пошукі Эдэма, які так старанна ахоўваецца Богам, бо "толькі надзея на рай будзе ўтрымліваць людзей ад зла".

Іншая сюжэтная лінія, якую вядуць выканаўцы роляў Адама і Евы Мікалай Кірычэнка і Святлана Зелянкоўская, вяртае гледача з філасофскіх вяршынь на грэшную зямлю з яе сямейнымі драмамі і чалавечым непаразуменнем. Курэйчык напісаў для гэтых сваіх герояў моцныя маналогі, якія сталіся для акцёраў выпрабаваннем на ўменне авалодваць залай толькі праз слова, без дапамогі пластыкі ці раскошы касцюма. І абодва з задачай справіліся. Мікалай Кірычэнка стварыў цудоўны і глыбока трагічны вобраз старога чалавека, які пакутліва змагаецца з павольнай смерцю, якую нясе час. Ён страшэнна адзінокі — сыны не хочуць шукаць рай, бо не ведаюць, што такое жыць без сораму, злосці і жаху, а жонцы даравать ён так і не здолеў. Адсюль і трагедыя Евы. Яна тоіць адмыслова схаваную крыўду. Не, ён ніколі не папракаў яе, але ж і не дараваў, думаючы толькі пра свой боль. І

люстраванне, прыгожая выява, "карцінка" (аператар Таццяна Логінава), дзіўная пластыка Вячаслава Іназемцава, мастацкага кіраўніка пластычнага тэатра "InZest", які іграе ў фільме Генія месца — гэта значыць і духа Беларусі, і душу асобнага беларуса. ("Старажытныя рымляне лічылі, што кожнае месца — вёска, горад, альбо краіна мае свайго Генія, Генія месца. Аўтарам фільма было цікава ўявіць Генія Беларусі", — расказваецца ў анатацыі да фільма.)

Наш Геній месца — гэта напалову аголены чалавек у белым грыме: ці то мім, ці то белы клоун... Хаця акцёр В. Іназемцаў уяўляе на экране адзін зборны вобраз са многіх сваіх неардынарных спектакляў, зробленых у традыцыях японскага танца Буто. Са здзіўленнем і непрыхаваным жахам назіраюць людзі за героем В. Іназемцава, які павольна выкарыстоўваючы дзіўныя рухі і жэсты, крочыць па адной з цэнтральных вуліц Мінска. Натоўп углядаецца: якая ж ты душа беларуса? "Дзе ж ты была, чаму міма раю прайшла?" А душа ў нашага чалавека, несумненна, жывая, трапяткая, добрая нягледзячы ні на што: ні на войны, ні на розныя палітычныя рэжымы, ні на... грым на твары. У экраннай прасторы аблічча, постаць Генія месца ўзнікае і на плошчы горада падчас святочных дэманстрацый... узброенай тэхніцы, і на дахах вялізных гарадскіх будынкаў, і ў на палову разбураным старажытным маёнтку. Адбітак яго самотнага твару, мо як белае воблака, праплывае ў шкле разбітага акна ў адной з пустых чарнобыльскіх вясковых хат. Геній месца танчыць і разам з вясёлымі народнымі музыкамі, і маладымі на даўнішнім па часе вясковым вяселлі (у фільме цікава выкарыстаны хранікальныя кадры з дакументальнага кіначасопіса "Советская Белоруссия"). Ён атрымлівае асалоду і ад квітнеючых садоў, і ад велічы... трактароў і БелАЗаў; і пакорліва крочыць за вернікамі ў момант крыжовага ходу на Вялікдзень...

Увогуле фільм Г. Адамовіч — шматтэмны, многаслойны. Не цяжка заўважыць, што рэжысёра, напрыклад, хвалюе тэма індывідуальнасці і натоўпу. З майго пункту гледзішча, зусім невыпадкова Г. Адамовіч запрашае ў свой новы фільм В. Іназемцава — асобу ў нашым тэатральным мастацтве звышнеардынарную, непадобную на іншых тэатральных дзеячаў. Карціна "Геній месца" адкрывае нам Іназемцава і як творцу (сімвалічным падаецца эпізод у стужцы, калі чалавек у белым грыме спрабуе прыладзіцца да самабытнага гурта народных танцораў, але пластыка, рухі "генія месца" вымагаюць для яго зусім іншага мастацкага вымярэння). У стужцы занатавана і шчырая (нават нейкая падсвядомая) споведзь самога рэжысёра: у глыбокім экранным маналогу адчуваецца жаданне Г. Адамовіч быць пачутай беларускімі людзьмі.

Рэжысёр Г. Адамовіч — вельмі прынцыповая, упартая ў творчым жыцці. Яна адна з тых нямногіх (яшчэ маладых) кінематаграфістаў, якія не рэфлексуюць, не плачуцца ў чужую камізэльку, а здымаюць кіно, калі, канечне, ёсць такая магчымасць ("амбіцыі ў нашых сённяшніх умовах могуць быць толькі ў дурняў", — заўважыла рэжысёр падчас дыялога з гледачамі). І такое кіно, пасля прагляду якога хочацца і жыць, і працаваць, і спазнаваць нешта новае. Сваёй работай Г. Адамовіч натхняе другіх.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКУ: В. ІНАЗЕМЦАЎ у спектаклі "ДКДанс" — наш "геній месца".*



невядома, каму з іх больш балюча: Адаму, якога пакінуў Гасподзь, ці Еве, якую пакінуў і Гасподзь, і муж... Але драматург дае сваім героям надзею: "Так заўсёды ў жыцці — здаецца, усё, канец, але раптам успыхвае надзея. За смерцю — жыццё, за цемрай — святло."

"Недалікатна з Богам" — гэта адна з галоўных прэтэнзій да маладога аўтара. Сапраўды, наш тэатр упершыню размаўляе напрамкі з Богам, і выклікае гэты дыялог супярэчлівыя пачуцці. Андрэй Курэйчык упэўнены: "Што тычыцца інтэрпрэтацыі боскай тэмы — мастак можа інтэрпрэтаваць усё, што палічыць патрэбным. Калі ён лічыць, што яму трэба паразмаўляць з Богам, ён будзе з ім размаўляць". І размова гэтая працягнулася ў іншым спектаклі па п`есе маладога драматурга, у "Понціі Пілаце", пастаўленым Рэспубліканскім тэатрам беларускай драматургіі.



Брацца за вобраз, геніяльна выпісаны класікам, было вялікай рызыкай. Як і Булгакаў, Курэйчык спрабуе разабрацца ва ўчынках свайго героя, у прычынах, што прымусілі яго вынесці смяротны прысуд бяскрыўднаму філосафу. Тут зноў гучыць надзвычай важная для драматурга тэма выбару. Гэты выбар Пілат прапануе Назарэю — выбар паміж ціхмяным жыццём простага чалавека, што змірыўся з жорсткасцю гэтага свету, і лёсам прапаведніка, які падбухторвае людзей на паўстанне і бярэ на сябе адказнасць за тысячы жыццяў. У Курэйчыка Пілат — не тыран, ён проста стомлены людской жорсткасцю і дзікунствам чалавек, які не жадае праліцця нявіннай крыві. Але ўсе яго добрыя намеры, накшталт правядзення водаправода, каб пазбавіцца масавых эпідэмій, патанаюць у фанатызме і цемрашальстве эпохі.

Гэтай п`есе Курэйчыка таксама пашанцавала, бо за яе пастаноўку ўзяўся лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Анісенка, а галоўную ролю сыграў купалавец Генадзь Гарбук, народны артыст Беларусі. Што ні кажы, п`еса для пастаноўкі вельмі складаная — зноў няма ніякага дзеяння, шматлікія гістарычныя персанажы мільгаюць на сцэне, як здані, яны — не больш чым нагода для ўспамінаў галоўнага героя. Таму спектакль давялося "выцягваць" на сабе Генадзю Гарбуку. Ён з гэтай задачай справіўся выдатна — яго Пілат ні на хвіліну не губляе кантакту з залай, паступова вядзе яе да фінальнай высновы: свет цудоўны і без улады, багацця і войнаў, але як цяжка ад іх адмовіцца...

•

Самае яркае ўражанне ад п`ес Курэйчыка пакідае не сцэна, ці філасофія і акцёры. Уражвае перапоўненая зала, якая неўпрыкмет для самой сябе аказваецца ўцягнутай у сцэнічнае дзеянне, і глыбокая, як ні на якім іншым спектаклі ўважлівая цішыня. Так, "развеяцца" на такім спектаклі немагчыма. Але асабістя я пакідала тэатр з нейкім пачуццём уласнай значнасці — нарэшце мяне, гледача, палічылі вартым сур'ёзнай і небанальнай размовы. Як ні спрачайся, а скандаліст Курэйчык прынёс-такі на нашу сцэну новую драматургію. Наколькі запатрабаванай яна будзе, ці спадабаецца асноўнай масе гледачоў думаць — пакажа хіба толькі час. Але радуе ўжо сам факт таго, што лепшыя нашы тэатры не баяцца эксперыментаваць, не баяцца працаваць з новым і нязведаным.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

*НА ЗДЫМКАХ: сцэны са спектакля "Згублены рай".*

**ФОТА К. ДРОБАВА**

**АРХІЎ**

***З кагорты першых артыстаў Беларускай опернай сцэны — Варвара Пукст ды Ганна Касценіч. З дня нараджэння Варвары Канстанцінаўны мінула 95 гадоў, Ганны Трафімаўны — 100.***

# АГУЛЬНЫ ЛЁС...

Варвара Пукст нарадзілася ў шматдзетнай сям'і гомельскага чыгуначніка, які, дарэчы, у вольны час кіраваў чыгуначным аркестрам. Бацька яе трагічна загінуў, калі Варвара была маленькая. Маці дзяўчынкі мела прыгожы голас. Амаль усе ў сям'і, у тым ліку Варвара, добра спявалі, удзельнічалі ў царкоўным, і ў сямейным хорах. У народных песнях другі голас падбіраў старэйшы брат Рыгор, які потым стаў вядомым беларускім кампазітарам. Ён вучыў галасістую Варвару гармоніі, напісанню музычных дыктантаў.

Ураджэнка Магілёва Ганна Касценіч таксама рана далучылася да музыкі. Вечарамі ў сям'і чуліся гукі піяніна, гітары, спевы. Сярод усіх вылучалася прыгожае меццa-сапрана Ганны.

У лёсах Варвары і Ганны было шмат агульнага. Абедзве вучыліся на вакальным аддзяленні Мінскага музычнага тэхнікума. Пасля яго заканчэння Ганна паступіла ў толькі што адкрытую Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, стала салісткай Беларускай опернай студыі, затым пачала працаваць у Дзяржаўным тэатры оперы і балета. Яе абаяльная, жаноцкая, прыгожая Вольга з "Яўгенія Анегіна" П. Чайкоўскага пакарыла не толькі Ленскага, але і многіх, хто сядзеў тады ў зале новага тэатра. Варвара таксама выконвала партыю Вольгі. Але яе гераіня была зусім іншай — у гэтай чароўнай актрысе адчувалася нейкая патаемная непрадказальная энергія, сапраўдная непаўторнасць.

Мне давялося бачыць Варвару Пукст у партыі Канчакоўны ("Князь Ігар" А. Барадзіна). І хаця гэта было вельмі даўно — у мае школьныя гады, — на ўсё жыццё запомніўся створаны артысткай прыцягальны вобраз, яе незвычайны тэмперамент, прыгажосць і цудоўны голас. Калі ў ролі Уладзіміра Ігаравіча выступіў гастралёр з Італіі, ён прызнаўся, што трапіў пад магнетызм гэтай таленавітай актрысы і прывабнай жанчыны.

Да Вялікай Айчыннай вайны В. Пукст выступіла ў партыі графіні з оперы П. Чайкоўскага "Пікавая дама". Пра тое, як таленавіта, ярка ўвасобіла Варвара Канстанцінаўна гэты цікавы каларытны вобраз, можна меркаваць па тагачасных фотаздымках, на якіх — старая арыстакратка-графіня ў яе выкананні, жанчына са слядамі былой прыгажосці і насычанага цікавага жыцця. У творчай біяграфіі артысткі такія складаныя, яркія вобразы. як пскавіцянка з аднайменнай оперы М. Рымскага-Корсакава, Сузукі з "Чыа-Чыа сан" Д. Пучыні. А яе Кармэн з аднайменнай оперы Д. Бізе была настолькі прыгожая, тэмпераментная і вясёлая, зямная, — што называецца, вачэй не адвесці.

Абаяльная, непаўторная была Ганна Касценіч у партыях Паліны, Мілаўзора з "Пікавай дамы", Ларынай з "Яўгенія Анегіна" П. Чайкоўскага ды іншых. У вачах актрысы нельга было не заўважыць шчырасць, мяккасць, пяшчоту, дабрыню. Усё гэта мне давялося ўбачыць на мінскай опернай сцэне, як і многім гледачам таго часу.

Ганну Касценіч і Варвару Пукст яднае не толькі тое, што ў абедзвюх былі прыгожыя галасы — меццa-сапрана. Яны былі суседкамі, жылі ў доме артыстаў па Мопраўскай вуліцы. Лёс склаўся так, што яны абедзве ў час



Вялікай Айчыннай жылі ў акупіраваным фашыстамі Мінску. Дзеці іх — дачка Ганны Трафімаўны Ларыса і сын Варвары Канстанцінаўны Ігар — аднагодкі і ў дзяцінстве разам гулялі. І Ларыса, і яе дачка Насця — вядомыя сёння музыканты. Свае лепшыя якасці — душэўнасць, дабрыню, інтэлігентнасць Ганна Трафімаўна перадала дачцэ і ўнучцы.

У час Вялікай Айчыннай вайны Варвара Канстанцінаўна, каб пракарміць сына, мусіла спяваць у тэатры акупіраванага Мінска. І гэта не магло не адбіцца на яе кар'еры ў пасляваенны час. Жыццё ў акупіраваным Мінску негатыўна паўплывала і на творчую біяграфію Ганны Трафімаўны...

Сёння, у сезон 70-годдзя Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі, нельга не ўспомніць пра гэтых прыгожых таленавітых артыстак: Варвара Пукст і Ганна Касценіч — з кагорты першых.

**Вера КРОЗ**

*НА ЗДЫМКАХ: Ганна КАСЦЕНІЧ (справа) у ролі Ларынай і Лідзія ГАЛУШКІНА — Вольга ў "Яўгеніі Анегіне"; Кармэн — Варвара ПУКСТ (у цэнтры). 1935 г.*



# БУДЗЕМ ЯК ДЗЕЦІ!

Здымкі Кастуся ДРОБАВА

Хіба ёсць прастора для сюрпрызаў там, дзе рэй вядзе Яе Вялікасць Класіка? Няма. І не будзе. Калі ўспрымаць класіку як нейкую радавітую цётку са старасвецкай глухмені, абцяжараную клункамі традыцый, абмежаваную этыкетам 200-гадовых музычных стандартаў і адпаведных публічна-сцэнічных паводзінаў.

Але чаму б не ўспомніць, як Яемосць успрымалася ў свой час, калі выйшла на сцэну ўпершыню? Гэткая дзёрзкая чужаніца-дзяўчынка, якая насмелілася кінуць выклік звыкла-ўстойліваму...

200 гадоў таму, калі ружовых феяў ды блакітных прынцаў пацяснілі простанародныя героі балета "Марная перасцярога", — адбылося штосьці накшталт перавароту ў сферы эстэтыкі ўяўленняў. Сёння, калі свежы і творчы, а таму непазбежна дзёрзкі позірк аўтара яшчэ адной версіі класічнага балета зачапіў традыцыйныя персанажы і сітуацыі, у якіх тыя дзейнічаюць, — атрымалася "новая песня пра галоўнае". У цётухны-класікі адкрылася другое, маладое і свежае, дыханне.

Бедная Ліза, для якой практычная маці знаходзіць заможнага жаніха, праз неверагодныя хітрыкі пазбягае выгоднага шлюбу, ідзе пад вянец з любым хлопцам Каленам. Вечны сюжэт. З якім захапленнем перачытваюць яго балетмайстар Дзітмар Зайферт, мастак-пастаноўшчык і аўтар касцюмаў Любоў Сідзельнікава, дырыжор Мікалай Калядка і артысты Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі!

Гэтак правільна ўсё пачынаецца: зацямненне ў зале, маляўнічая аванзаслона, немудрагелісты, як песенька, аркестравы ўступ. Ды следам — ужо іншая уверцюра, паводле адвечнай, класічнай партытуры... вясковага падворка! Куры сакочуць, свінні рохкаюць, бычок мыкае. Гаспадыня, удоўка Марцаліна, у акне мансарды пазяхае, пацягушкі робіць. Двор прачынаецца. І пакуль прыгожая Ліза ў простай валошкавай сукеначцы, сама, як валошка ці матылёк сінякрылы, дэманструе ранішні экзерсіс ля прыткнутай на задворку лесвіцы (нібыта балерына ля станка!), з'яўляецца першы сюрпрыз. Бутафорскія куры пад чырвонай дахоўняй пачынаюць раптам варушыцца і, пакруціўшы хвастамі перад публікай, — несці яйкі!

Неаднойчы, здавалася б, статычныя дэкарацыі дынамізуе у "жывы" рэквізіт: і тая ж гаспадарская лесвіца, і шарападобнае свінчо, на якім гойсае бамбізажанішок Ален, і ягоны кульгавы ровар з конскай мордай замест руля і амаль квадратнымі коламі, якім, відаць, дасталася не адна "васьмёрка". І плямістыя даўгахвостыя азадкі, якія грацыёзна таньчаць на парозе пуні. І клубок нітак, які, нібы "зброя захопу", пераходзіць з рук у рукі, ад маці да непакорлівай дачкі. І гуллівая казіная галава з люстэркам паміж саламянымі рогамі. Нават... "шпакоўня" з акенцам-сэрцайкам.

Усё іграе. Усё — жыве! Калі ўпершыню з'яўляецца гурма вясёлых маладых пейзанак ды пейзанаў, міжволі прыкмячаеш, як гожа перагукаюцца фарбы іх адзення з каларытам сцэнічнага асяроддзя: нібы вылучыліся з дэкарацыі ды крочылі на падворак "дзеці сонца" — жоўтагаловыя, зеленалістыя сланечнікі! Мяняецца асяроддзе (падворак, палетак, потым інтэр'ер) — мяняецца колеравая гама касцюмаў.

А паназірайце за персанажамі! Высокатэхнічныя танцоўшчыкі паказваюць і акцёрскі клас. Пяшчотныя, дасціпныя, зямныя летуценнікі Ліза ды Кален — Кацярына Фадзеева ды Ігар Артамонаў. Эксцэнтрычная і ўвішная, нягледзячы на свой баскетбалісцкі рост і ножку 45-га памеру, Марцаліна — Дзяніс Аляксішан. Субтэльны, інфантыльны, кранальны недарэка Ален — Аляксандр Бубер ды яго самавіты смешны татусь Мішо — Уладзімір Варанкоў...

Праца Д.Зайферта — адмысловы ўзор стылізацыі, што злучае стыхію інсітнага мастацтва і хрэстаматыйную пастаральную ідылію. Тут спалучаюцца эрудыцыя і пачуццё меры, простасць і вытанчанасць, смачны незласлівы гумар і памяркоўная вынаходлівасць, якая прыцягвае ўвагу, але не раздражняе.

Спектакль прасякнуты дасціпнай і мяккай эратычнасцю. Яна — у гарэзлівым рытмічным трымценні стажкоў, за якімі, пабраўшыся ў парачкі, хаваюцца маладыя сяляне; у цнатлівых і палымяных па-дэ-дэ закаханых герояў; у скарамоўцы драўляных сабо; у камічных ансамблях з удзелам тэмпераментнай Марцаліны — пэўна, вялікае сэрца трапеча ў яе манументальнай постаці, гукаючы вялікае каханне...

Чамусьці пасля спектакля мне прыгадалася Багдановічава: "...І ты будзеш ізноў, як дзіця, І адыдуць-адлынуць далёка Ад душы усе трывогі жыцця..." Захаваць у сваім позірку позірк дзіцяці — значыць, засвоіць вялікую хрысціянскую мудрасць. Нялёгка чалавеку, аблытанаму зямнымі трывогамі, проста радавацца жыццю. Але без гэтага — як тады жыць?

С.БЕРАСЦЕНЬ





***18 сакавіка паэту Паўлюку ПРАНУЗУ спаўняецца 85 гадоў. А нарадзіўся ён у вёсцы Вылева Добрушскага раёна Гомельскай вобласці. Вучыўся ў Гомельскім педінстытуце на філалагічным факультэце. У гады Вялікай Айчыннай вайны служыў у зенітнай артылерыі, быў намеснікам камандзіра гарматы. Разам з войскамі Бранскага, Цэнтральнага і Першага Беларускага франтоў удзельнічаў у баях на Курскай дузе, вызваленні Беларусі і Польшчы, узяцці Берліна. Перапісваўся з паэтам М. Сурначовым, пра якога потым склаў зборнік вершаў і ўспамінаў "Акопны спеў" (1986). Пасля вайны выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Нясвіжскім педвучылішчы імя Я. Коласа, у СШ № 3 г. Нясвіжа. З 1978 года — на творчай працы. Мае ўрадавыя ўзнагароды.***

***Друкуецца з 1936 года. У гады вайны з вершамі выступаў у франтавых і армейскіх перыядычных выданнях. Аўтар шэрагу зборнікаў вершаў і кніг выбраных твораў: "Разгневаная зямля" (1946), "Добрай раніцы" (1951), "У дальнім раёне" (1954), "Ручаёк" (1969), "Мой аўтограф" (1988) і інш. Пераклаў на беларускую мову творы рускіх, украінскіх, латышскіх, літоўскіх, польскіх і балгарскіх паэтаў: Я. Райніса, Л. Украінкі, М. Кастэнкі...***

***Віншуючы Паула Кузьміча з юбілеем, жадаем яму моцнага здароўя, творчага неспакою і плёну.***

# ПАЭТ У АДПАЧЫНКУ НЕ БЫВАЕ

Паўлюк Прануза — першы "жывы" паэт, які сустрэўся мне на жыццёвых пуцявінах. Ён аўтар кніжак, гасцяваў у маёй сям'і на Гарадзейскім цукровым заводзе. Здзіўленымі вачыма пазіраў я на маэстра рыфмаў, па-добраму зайздросціў яму, але, прызнаюся, крыху быў і расчараваны. Паэты мне ўяўляліся элегантнымі, піжоністымі, у капелюшах, з моднымі, пшанічнымі чубамі, пры гальштуку. А Павел Кузьміч быў занадта проста адзеты, з адкрытым тварам, яснымі вачыма. І што найбольш мяне ўразіла тады — яго наіўная сарамлівасць, дзіцячая ўсмешка і цікаўнасць да ўсяго. Ён зусім не фанабэрыўся, што знаны паэт, а яму было радасна ад сустрэчы са мною, новым чалавекам. Расшчодраны такой увагай, я паказаў Паўлу Кузьмічу свае сямейныя дзённікі, мае бацькоўскія назіранні за сынам-першыншом. Помню, паэт ухапіў мяне за локаць, спакойна сказаў:

— Валодзя, вашы запісы варты друкавання. Гэта літаратура.

Так з дапамогай Паула Кузьміча я вызгнуў з "падполля" свае дзённікі. З'явілася публікацыя ў нясвіжскай раённай газеце "Чырвоны сцяг", над літаратурнай старонкай у якой шэфстваў Прануза. Пасля мае дзіцячыя апавяданні прыняў у "Вясёлцы" сам Васіль Вітка. Так з'явілася мая першая дзіцячая кніга "Рыгоркавы прыгода".

Прайшло багата гадоў з таго часу, і я магу цяпер сцвердзіць Павел Кузьміч — пажыццёвы Педагог, мудры, далікатны, празорлівы. Законны Гомельскі педінстытут. І трыццаць тры гады выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Нясвіжскім педвучылішчы і Нясвіжскай СШ № 3.

Толькі вайна перапыніла яго настаўнічанне на чатыры гады. Як кажуць, ад званка да званка прайшоў гвардзеец Паўлюк Пранзуа крывавымі сцежкамі ліхалецця. Салдатам, абпаленым агнём баёў, на дах рэйхстага ўзышоў Паэт. І тут упершыню за ўсю вайну "спакойна выцер з твару пот".

Але хто асмеліцца сказаць, што Паўлюк Пранзуа і на вайне не быў Педагогам? Ён, зянітчык, намеснік камандзіра гарматы, паміж баямі ўмеў убачыць "алавяны месяц", "халодныя маршчыны на возеры", "сівы абрус туманаў бялёсацелых", як "карасі чачотку выбіваюць", як "лёг зары адбітак на вадзе".

*Чацвёрты год салдацкі свой шынель,*
*Што ўскінула вайна на плечы, носім.*
*На снезе спім, над галавой шрапнель,*
*А літасці ў суровых дзён не просім.*

Тысячу вёрст прайшоў Паўлюк Пранзуа пад свінцом, у бяссонні. Шлях крутыя, але пройдзены прама, сумленна і смела. Сведчанне таму — ордэн Славы, ордэн Айчыннай вайны, медалі. А яшчэ — франтавыя сшыткі з вершамі, якія вyліліся ў першыя паэтычныя кнігі.

З той, юнацкай, нашай сустрэчы каляндар адмераў багата гадоў. З Паўлам Кузьмічом мы сябруем, кожная сустрэча ў радасць. І часцяком задумваюся: адкуль у франтавіка-ветэрана столькі маладой энергіі, з якой крыніцы чэрпае паэт натхненне, дзе бярэ маладзільную рухавасць і нястомную патрэбу быць на людзях, у рэдакцыях, сярод дзяцей?

Адказ знайшоў у паэтычных радках Паўлюка Пранзуы, у яго зборніках. Дык вось у чым паэтаў сакрэт: "свой дзень я пачынаю рана, як толькі праясніцца ўсход"; "з Коласавай крынічкі браў пачатак радок мой", "каб не зналі стомы ногі, каб не згас агонь вачэй", "калі спяваю — на поўны голас, касіць — у сажань гнаць пакос"; "люблю крышталь, азёры, рэкі і чыстага, як вока, чалавека"; "Я прашу ў жыцця: "Пакладзі груз любы на салдацкія плечы"; "вучыся дабрыні ў прыроды"; "матчына рука — мой касмадром, я пачынаў з яе ўзлёт жыццёвы".

Як пажыццёвы педагог, як улюбёнец у прыроду і свет Божы, паэт і не мог не ўвайсці ў храм Дзяцей. Ён умее бачыць іх і чуць, ён бязмежна шануе загадкавых чалавечкаў. З такой любоўю напісаны ім кнігі для дзяцей "Добры дожджык", "Я вясну малюю", "Фарбы восені", "Звініць ручаёк", "Вясновыя тэлеграмы"... Паэт умее разам з Наткай дзівавацца, хто так моцна прывязаў гурочак да градкі. З Галінкай робіць у мыле два вочкі, каб яно бачыла, дзе плямы. А то бярэцца маляваць вясну і мучаецца, якой фарбай падаць песні жаўрукоў, як намаляваць пахі траў, спевы ветра.

Вось і цяпер, дарагія чытачы, вы маеце магчымасць прачытаць вершы з новай кнігі паэта Паўлюка Пранзуы "Маё пакаленне". Учытайцеся і задумайцеся разам з ім пра сэнс жыцця, падлічыце, колькі колераў у вясны і восені. І хай ад яго вясёлых вершаў на вашы вусны ўскочыць усмешка. А некаторыя строфы пачытайце разам з дзецьмі, якіх паэт проста абагаўляе. Ды ўлічыце пры гэтым, што Павел Кузьміч падрыхтаваў гэты зборнік у свае шаноўныя восемдзесят пяць гадоў!

У адным з вершаў Паўлюка Пранзуы закладзена, зарыфмавана, замуравана яго крэда:

*Давай жыццё, нагрузку мне*
*на сэрца,*
*Да скону я гвардзеец верны твой.*

Так і жыве Паэт. Ён чуйны да падзей і да людзей, да сяброў і дзяцей. Са сваёй знакамітай, вышмальцаванай папкай, у якой заўсёды новыя вершы, Паула Кузьміча можна часта бачыць у розных рэдакцыях, у паездках на Нясвіжчыну і родную Гомельшчыну. Паэт усім сваім жыццём падказвае нам, крыху маладзейшым, як трэба берагчы кожны дзень на гэтым свеце, як трэба спаўна выкарыстаць дадзены Богам талент, як трэба ўмець даражыць сяброўствам, якім трэба быць верным сямейнікам — мужам, бацькам, дзедам. За ўсё за гэта давайце паклонімся Паўлу Кузьмічу Пранзуы і пажадаем яму здароўя.

**Уладзімір ЛІПСКІ**

---

З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

**Анатоль ГАРАЧОЎ**

## ПАМЯЦІ УЛАДЗІМІРА МУЛЯВІНА

*Ты пеў, вяшчун любві, дабра,*
*На "біс" і "брава".*
*Шмат год цябе як Песняра*
*Люляла слава.*

*З табой, і ў шчасці і ў журбе,*
*Душа спявала.*
*І вось — ужо няма цябе.*
*Цябе не стала!*

*Ты не пражыў свой век спаўна —*
*Мігнуў, бы знічка.*
*А Беларусь цябе здаўна*
*За сына лічыць.*

*Жыцця не спыніш кругаверць,*
*Дый недарэчна.*
*І хоць цябе забрала смерць —*
*Ты з намі вечна.*

*Запомнім мы на ўсе часы*
*Твой спеў адметны,*
*Твае шляхецкія вусы,*
*Твой воблік светлы.*

## НЯМА ПРАРОКА

*Ад біблейскіх часоў*
*Да нас прыклад дайшоў:*
*Трэба верыць-цярпець у чаканні.*
*Каб свабоду знайсці,*
*Трэба доўга ісці,*
*Па пакутах асіліць блуканне.*

*Вось Майсей сорак год*
*Па пустыні народ*
*Вёў — і сорак было не залішне.*
*На змяненне людзей*
*Ён з надзеяй глядзеў —*
*І яму дапамог Усявышні.*

*Нашу хто грамаду*
*Правядзе праз бяду?*
*На каго і на што ў нас надзея?*
*Ёсць цярпенне і час,*
*Але толькі між нас*
*Не знаходзіцца штосьці Майсея.*

*Скрозь адно крыкуны,*
*Дык яны ж груганы*
*Ці ваўкі ў кучараваі аўчыне.*
*Гаварыў жа Хрыстос,*
*Калі крыж цяжкі нёс,*
*Што прарока няма ў Айчыне.*

**в. Даўнары, Іўеўскі раён**

---

**Паўлюк ПРАНУЗА**



## ЛЁС КАВАЎ І ЗБРОЯЙ, І АДВАГАЙ

*Боль узяў мяне ў палон трывалы,*
*Урачы з ім уступілі ў бой!*
*Я магу яшчэ зрабіць нямала,*
*Быць хачу я на перадавой.*

*Я — салдат гвардзейскае закваскі,*
*Веку замець у мой твар мяла.*
*У жыцця я не вымольваў ласкі,*
*Крых не браў з ягонага стала.*

*Лёс каваў і зброяй і адвагай,*
*Пераможным крочыў бальшаком.*
*Сорак пяты. На сцяне рэйхстага*
*Гнеўна распісаўся я штыком.*

## МАТУЛІН ВУЗЯЛОК

*Якія ў дапрызыўніка пажыткі:*
*Кавалак сала ды счарсцвелы хлеб*
*Іголка з ільняной суровай ніткай.*
*Для розных падарожніцкіх патрэб.*

*І кубак, малако з якога піў я,*
*І нож, якім я выразаў дуду,*
*Бывай, дзяцінства!*
*Я пад сонцам жніўня*
*З таварышамі на Арол іду.*

*А за плячыма ў спелым*
*бляску жыта,*
*Зялёны Добруш, развітання дзень.*
*А па калоссі цяжкіх*
*"Месершмітаў",*
*Нібы каса, слізгае злосна цень.*

*Адзін другога мы пачаставалі,*
*Нас дружба павядзе праз*
*смерць і гром.*
*Я цешыўся (сціскала сэрца жалем)*
*Матуліным маленькім вузялком.*

*Не соль — была зямля*
*ў ім з Беларусі.*
*Я напамінку дарагому рад.*
*Сваім юнацтвам, маці, я клянуся*
*Прынесці гэты вузялок назад.*

Бранскі фронт

## ВОБРАЗ ЛЮБАЙ БЕЛАРУСІ

*На жыццёвым небасхіле*
*Бачыў шчасце, шмат турбот*
*Бед нямала я асіліў,*
*Пераходзіў гора ўброд,*

*І куды я ні імкнуўся,*
*І куды ні клікаў лёс,*
*Вобраз любай Беларусі*
*Я з сабою ў сэрцы нёс.*

## МАЯ ЗЯМЛЯ

*Скажу я шчыра: старасці баюся,*
*Яна прыгне і ў рукі дасць кіёк,*
*Хачу прайсці шляхамі Беларусі*
*Праз поле, дзе сінее васілёк.*

*Хачу пагрэць здубелыя далоні*
*Пясочкам берагу ля ціхае ракі,*
*Дзе мы купаліся, паілі коней,*
*Бясхмарнай маладосці юнакі.*

*Тут у вянках магілы, абеліскі,*
*Сваіх сяброў забыць я не магу.*
*Мая зямля —*
*жыцця майго калыска —*
*Перад табою я заўжды ў даўгу.*

## ГОРАД МАЁЙ МАЛАДОСЦІ

*У цябе з маленства улюбёны,*
*Праз вайну цябе ў сэрцы пранёс.*
*Слаўны Добруш — сталіца раёна*
*У садах і ў аздобе бяроз.*

*Тут ад маці пачуў калыханку,*
*Тут свяцілі мне радасці дні,*
*Сустракаў прыгажуню-каханку*
*Па-над Іпуццю ў цішыні.*

*Дзе б ні быў ад цябе я далёка,*
*ты мне радасці светлы выток.*
*Ярка ззяеш нязгаснаю зоркай,*
*Любы, родны мой гарадок.*

*Я табою, як сын ганаруся,*
*Зычу шчасця на многа вякоў,*
*Дарагая зямля Беларусі —*
*Лёс, надзея маіх землякоў.*

## ЖАДАННЕ

*Цішыні хачу я, цішыні,*
*Легчы ў лесе і накрыцца ёю,*
*Каб не бачыць, як праходзяць дні,*
*Поўныя турботамі, бядою.*

*Дабрыні хачу я, дабрыні*
*І не адчуваць папрокаў, злосці,*
*Каб да скону дадзеныя дні*
*Абвявала ветрам маладосці.*

якія ішлі ў сотні рускіх тэатраў, пасля аднаго пленума ці з'езда прапанаваў мне:

— Раскажы, што гаварыў Суркоў.

І — о дзівосы! — ні я, ні ён не маглі перадаць змест яго прамовы, якую з цікавасцю слухалі. Бываюць жа такія парадоксы! Калі заварожвае музыка слоў.

Натуральна, я памкнуўся далучыцца да групы Суркова: там усе навіны. Але каля дзвярэй калідора ўбачыў Сіманава. З ім я быў знаёмы лепш, чым з Твардоўскім, ён неаднойчы прыязджаў у Беларусь, я суправаджаў яго ў Магілёў, на Буйніцкае поле, дзе ён у 1941 годзе атрымаў баявое хрышчэнне.

— Добры дзень, Канстанцін Міхайлавіч!

— А-а, Шамякін! Здарова, беларус, — працягнуў руку, апусціўшы ў другой руцэ "Литературную газету": чытаў рэдакцыйнае заключэнне. Здаецца, здзівіўся, убачыўшы нашых нацыяналаў, што падніміліся па лесвіцы. — І вас выклікалі?

— Мы з пленума "Советского писателя". І нас запрасілі.

— А-а. А я падумаў: вас навошта? — набіў люльку тытунём, спытаў: — Будзеце выступаць?

— Я не чытаў рамана.

— Яго мала хто чытаў, — і цяжка ўздыхнуў: — Непрыемная гісторыя...

Але не сказаў — для каго непрыемная: для Пастэрнака? Саюза? ЦК? Падняў газету да вачэй.

Я далучыўся да групы Суркова, якая з нашым прыездам папоўнілася, і Аляксей Аляксеевіч бадай узрадаваўся, што мае такую аўдыторыю, масквічы адносіліся скептычна да яго рыторыкі.

Пра прэмію і Пастэрнака Суркоў не гаварыў, расказваў франтавы анекдот — пра Ванду Васілеўскую, як яе прынялі за мужчыну і як начальнік прыфрантавой станцыі скардзіўся палкоўніку, што прыехаў, — менавіта Васілеўскай скардзіўся:

— Вугля няма. Бліжэйшы беразняк высеклі на дровы. Кожны начальнік эшалона хапае за грудкі. Трое сутак не спаў. А тут яшчэ нейкую б... Васілеўскую загадалі сустракаць. Тэлеграма з палітупраўлення.

Вялікі гадзіннік — немецкі трафей, што стаяў у фае, прабіў дванаццаць.

— "Уж полночь близится, а Германа всё нет".

Не было Твардоўскага. Яго чакалі.

Суркоў пачаў цэлую лекцыю аб пунктуальнасці, дысцыпліне, рускай, нямецкай. Рускую ганіў.

— У нас кулакі выхоўвалі сваіх дзяцей у дысцыпліне, акуратнасці...

Думка гэтая кранула некага з прыхільнікаў гапоўнага рэдактара "Нового мира":

— Бацька Твардоўскага не быў кулаком, ён — каваль. А кавалі ўсе былі заможныя.

З'явіўся Аляксандр Трыфанавіч. Мяне, сведку яго начнога "возлияния", здзівіў: што вымытае шкло, вочы светлыя, чыста паголены, свежая сарочка, новы, не ўчарашні, гальштук. У фае ні з кім не павітаўся, адразу прайшоў у залу.

Натуральна, першы трымаў прамову Суркоў. Улада.

Нехта пажартаваў:

— Нобелеўскаму лаўрэату можна не прысутнічаць.

— Разбяромся без яго, — сказаў нехта іншы са злосцю.

Суркоў гаварыў без злосці, памяркоўна, як забаўную быль, што Барыс Леанідавіч прысутнічаць не будзе, пра ўсе нюансы выдання, узнагароджання "Доктара Живага", хваліў Пастэрнака-паэта. "Сябра наш, а падлажыў свінню. Не толькі Саюзу пісьменнікаў, усім нам, дзяржаве, ураду, народу". Палітычнае асуджэнне цягнуў доўга, як заўсёды паказваў сваё красамоўства. Але так і не сказаў, з якой мэтай сабраліся члены сакратарыяту, праўлення, актыў. Не меў яшчэ старшыня пэўных указанняў. Вярхоўны ідэалагічны орган нярэдка па дробязях даваў канкрэтныя ўказанні, а па сур'ёзных, істотных прапаноўваў разабрацца самім. Так было ў Маскве, так было ў нас.

Пасля Суркова ўсе асуджалі Пастэрнака, але мякка, нязлосна, як бы падсцілаючы саломкі, каб не балюча яму было на дачы ў Перадзелкіне. Адзін чалавек абараняў лаўрэата — Ілля Эрэнбург. Сказаў, што асуджэннем Пастэрнака мы зробім вялікую шкоду сусветнаму руху за мір. Савецкі камітэт міру ўзначаліў рух, у Сусветным савеце большасць пісьменнікаў, за намі пайшлі перадавыя літаратары Еўропы, Амерыкі... Пасля такой нашай акцыі ад нас адвярнуцца, як пасля "Звезды", "Ленинграда", барацьбы з касмапалітызмам. Эрэнбургу запляскалі. Суркоў запунцавеў і зноў закацiў прамову хвілін на дваццаць, згаджаючыся з Эрэнбургам і аспрэчваючы яго.

Я запісваў тэзісы выступленняў у блакноцік. Шкада, не здолеў знайсці яго — 45 гадоў мінула, архіў — гара. Запомнілася выступленне Веры Пановай. Яна адна была ад Ленінграда. Я ў той час захапляўся яе прозай, усё перачытваў, упершыню пабачыў пісьменніцу. Але выступленне яе бадай спалохала. Яно было злоснае. Але супраць каго? Ніводнага адраса: ні Пастэрнака, ні саюза, ні Хрушчова. Шмат хто слухаў яе, панурыўшы галовы. Пасля яе выступлення наступіла паўза.

Суркоў спрытна "выкруціўся":

— А што скажуць нашы калегі з брацкіх рэспублік? Украіна ёсць?

Украіны не было.

— Беларусь?

Я падняўся, як школьнік, і, як школьнік, адказаў:

— Я не чытаў рамана.

Нехта засмяяўся. Нехта спытаў:

— А хто чытаў?

І сам Суркоў мяне выгарадзіў, прачытаўшы цэлую лекцыю не аб рамане, які таксама не чытаў, — аб гонары савецкага пісьменніка, аб тым, што мы абавязаны пісаць так, каб буржуазным выдавецтвам не захацелася нас выдаваць. А факт, што ў Барыса Леанідавіча купілі рукапіс з рук, — пра што ён сведчыць? Пра тое, што раман працуе супраць нас, нашай партыі, нашай дзяржавы.

Не помню, хто першы выказаў гэтую прапанову. Не з вядомых. З падпявалаў. Ці не наш сябра і перакладчык Андрэй Клёнаў (Арон Куперштох), які пазней адзін з першых падаўся на зямлю абетаваную.

— Трэба прымусіць Барыса Леанідавіча адмовіцца ад прэміі. Савецкі пісьменнік не можа ўзяць буржуазную прэмію.

Прапанова амаль усім спадабалася. Адзін Эрэнбург скрывіўся.

Пачалася канкрэтная праца: склалі камісію для размовы з Пастэрнакам.

Вядома ж, увайшлі масцітыя, яго равеснікі: Суркоў, Сіманаў, Кажэўнікаў, Сафронаў... Не помню ўсіх. Памятаю: Твардоўскі адмовіўся, маўляў, ён сваё слова сказаў у рэдакцыйным заключэнні.

Склалі камісію — і ўздыхнулі з палёгкаю.

Праз пэўны час у "Правде" з'явілася пісьмо Пастэрнака — адмаўленне ад Нобелеўскай прэміі. Пісаў, што... "ён звязаны з Расіяй, звязаны з яе народам, з яе мінулым, слаўнай сучаснасцю і з яе будучыняй".

Сябра мой Мікалай Рыленкаў вельмі шкадаваў, што ў мяне не хапіла волі разбудзіць яго.

Праз колькі дзён адбыўся сход у Саюзе пісьменнікаў БССР. І зноў, як сем гадоў назад у гісторыі з Сасюрам, мне давялося выступаць першаму: я ж меў шчасце слухаць маскоўскіх карыфеяў. Але цяпер я не хваліўся, хоць на сходзе прысутнічаў сам Шаура. Тут мне нічога не трэба было пісаць, нікога не трэба "пастэрначыць": нашым нікому Нобелеўскай прэміі не далі. Але, як казала мая маці, у кожную добрую справу ўмяшаецца нячысцік.

Выступаў дырэктар Інстытута літаратуры акадэмік Васіль Барысенка і ... спатыкнуўся: замест Пастэрнак сказаў Пестрак. А Піліп Пестрак сядзеў тут жа, у першым радзе, ён трохі недачуваў і таму заўсёды садзіўся наперадзе.

Зала замерла, чакаючы Піліпавай рэакцыі. Ён змаўчаў. І, можа, усё абышлося б добра, каб Васіль Васільевіч у канцы не спатыкнуўся яшчэ раз: "Гэты антысаветчык Пестрак".

Броўка прапанаваў Барысенку паправіць агаворку, але ён, усхваляваны, не дапяў, што ад яго хочуць.

Пасля яго першы папрасіў слова Піліп Сямёнавіч. Зала замерла, а была яна, малая, на сто месцаў, набіта пісьменнікамі, супрацоўнікамі СП, рэдакцый, што бочка селядцамі.

Пестрак не спяшаючыся пайшоў да трыбуны са сваім да дзірак пацёртым партфелем (жартавалі, што торба гэтая — з Лукішак яшчэ), раскрыў партфель, дастаў нейкія паперы, начапіў акуляры — як выпрабоўваў цярпенне слухачоў. А сказаў адзін сказ:

— Акадэмікам трэба выступаць па пісаным, — і пайшоў з трыбуны.

Зала выбухнула рогатам. Словы гэтыя зрабіліся крылатымі.

Броўка не мог не спытаць у начальства, як прайшло мерапрыемства, любіў, каб пахвалілі. Спытаў у Шауры, калі той у нашым кабінеце апранаўся:

— Ну, як? Па-мойму, усё добра.

— Балаган.

Броўка пазелянеў.

— Гэты Пестрак! Васілю даравальна — ён хваляваўся...

— Справа не ў іх.

А ў чым? Разгадаць мы так і не здолелі, нават з дапамогай мудрага Глебкі, чаму такое сур'ёзнае асуджэнне стала балаганам.

2-9 студзеня 2003 г.

---

**РАРЫТЭТЫ**

***У шырокавядомай навуковай серыі «Біблія славіка», заснаванай для выдання найбольш знакамітых помнікаў тэалагічнай думкі Сярэднявечча – славянскіх біблій, якая выдаецца вядомымі нямецкімі славістамі Г. Ротэ і Ф. Шольцам, у III частцы яе – «Усходнеславянская біблія», у 1-ым томе, змешчаны матэрыялы, што маюць непасрэднае дачыненне да славутай творчай спадчыны выдатнага беларускага першадрукара Францішка Скарыны.***

Biblija ruska.

vyložena doktorom Franciskom Skorinoju Prag 1517-1519

Kommentare

Apostol

Wilna 1525

Facsimile und Kommentar

# BIBLIA SLAVICA

Том складаецца з дзвюх частак. У першай змешчаны Каментарыі да факсімільнага выдання Бібліі Ф.Скарыны пад назвай «Біблія руска. Выложена доктором Францішком Скорыною. Прага 1517–1519». У другой – факсімільнае выданне Апостала 1925г. і каментарыі да яго. Ініцыятыва гэтага выдання належыць выдатнаму нямецкаму славісту Г.Ротэ.

Першая частка тома падрыхтавана вядомымі беларускімі навукоўцамі: членам-карэспандэнтам А.Жураўскім, дактарамі А.Конанам, І.Саверчанкам, А.Шматавым, Г.Галенчанка і У.Свяжынскім пад кіраўніцтвам аўтара гэтых радкоў, каардынатара беларуска-нямецкіх культурных сувязяў, асацыяванага прафесара пры Бонскім універсітэце. У выданні прыняў таксама ўдзел вядомы даследчык беларускай літаратуры ў Англіі прафесар А.Макмілін. Аб'ёмісты том у 1048 старонак, што рыхтаваўся на працягу 10 гадоў, убачыў свет у выдавецтве Фердынанда Шёнінга ў 2002 г. Кніга выдадзена на высакаякаснай паперы, з густам афармлена, забяспечана высокакваліфікаваным навуковым апаратам і робіць вельмі прыемнае ўражанне. У замежнай выдавецкай практыцы, прысвечанай Ф. Скарыне, да гэтага часу нічога падобнага не было.

Выданне адкрываецца нарысам У.Конана "Жыццёвы шлях. Літаратурна-гістарычная спадчына", які дае шырокае ўяўленне пра час, эпоху і творчасць Скарыны. Артыкул А.Макміліна, "Пісьменнік", раскрывае воблік беларускага першадрукара як таленавітага майстра прыгожага пісьменства. У нарысе Г.Галенчанка "Апісанне публікацый і даследаванні Скарыны" глыбока прааналізаваны важнейшыя працы, прысвечаныя творчай спадчыне Ф.Скарыны. У публікацыі У.Свяжынскага "Пераклад Бібліі Скарыны і яе крыніцы", зроблена якасная характарыстыка перакладу Бібліі і яе крыніц. Грунтоўным аналізам прасякнута публікацыя А.Жураўскага «Мова перакладаў», дзе дадецца глыбокая і ўсебаковая ацэнка мовы Ф. Скарыны. У аб'ёмным і грунтоўным нарысе І.Саверчанкі "Да пытання тэалогіі перакладаў і прадмоваў", кваліфікавана разгледжаны тэалагічныя праблемы існасці і абсалюту, пытанні хрысталогіі, экклесіялогіі ў творах беларускага першадрукара.Наступная вялікая публікацыя «Мастацкае афармленне Бібліі» В.Шматава глыбока і пранікнёна раскрывае мастацкае афармленне Бібліі, пераканаўча паказвае ўплывы нямецкай графікі і кнігадрукавання і арыгінальнасць пошукаў Ф.Скарыны ў аздабленні беларускіх першадрукаў. Гэтая публікацыя багата ілюстравана выявамі са Скарынінскай Бібліі, якіх больш за 50. Акрамя таго змешчаны невялікі ўступ "Скарыназнаўчы подзвіг" А. Мальдзіса.



Другую частку кнігі складаюць факсімільныя тэксты «Апостала», выдадзенага доктарам Францыскам Скарынаю з Полацка ў Вільні ў 1525 г. Тут узнаўляецца ён упершыню. Калі у Беларусі была здзейснена поўнае факсімільнае выданне Бібліі Скарыны ў трох тамах, то засталіся неперавыдадзенымі дзве значныя кнігі Скарыны – Апостал і Малая падарожная кніжка. Гэтым выданнем Ротэ і Шольца ліквідуецца яшчэ адна белая пляма ў выданні спадчыны выдатнага беларускага першадрукара. Да Апостала падаецца вельмі кампетэнтны каментар Г. Ротэ пад тытулам «Апостал. Вільна 1525. Яго даследаванні і крыніцы». Гэта надзвычай дэталёвае, грунтоўнае манаграфічнае даследаванне на 112 старонках, дзе на аснове высокакваліфікаванага аналізу пераканаўча даводзяцца да чытача высновы таго, якія крыніцы служылі падставай і тэкстамі для перакладаў твораў Скарыны на старабеларускую мову.

Выданне нямецкіх славістаў мае непераходнае значэнне, яно дапамагае чытачу выявіць і яшчэ паўней раскрыць усю веліч і значэнне Скарынінскай спадчыны. (Жаль, што Каментары выдадзены на нямецкай мове і, пэўна, будуць недасягальнымі як для шырокага беларускага чытача, так і тых навукоўцаў, якія не валодаюць нямецкай мовай).

**У. САКАЛОЎСКІ**



**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**
**пл. Парыжскай Камуны, 1,**
**тэл. 234-06-66**

**14** — А. Мдзівані "Страсці" "(Рагнеда)"
**16** — В. Кузняцоў "Макбет", М. Равель "Балеро"
**19** — А. Хачатуран "Спартак"
**21** — І. Стравінскі "Жар-птушка", "Вясна свяшчэнная"
**23 (раніца)** — Б. Паўлоўскі "Беласнежка і сем гномаў"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
**пл. Парыжскай Камуны, 1,**
**тэл. 234-10-41**

**15** — П. Чайкоўскі "Пікавая дама" (памяці народнага артыста Беларусі рэжысёра Сямёна Штэйна)
**16 (раніца)** — Ц. Кюі " Кот у ботах"
**18** — М. П. Мусаргскі "Барыс Гадуноў"
**20** — Д. Вердзі "Баль-маскарад"
**22** — Д. Пучыні "Багема"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр**
**вул. Мяснікова, 44,**
**тэл. 220-81-26, 220-92-54**

**14** — М. Самойлаў "Дарагая Памэла", мюзікл
**15** — Л. Мінкус "Дон Кіхот", балет
**16 (раніца)** — С. Баневіч "Трывушчы алавяны салдацік", музычная феерыя
**16 (вечар)** — Ц. Хрэннікаў "Дарагая", камічная опера
**18** — Ф. Легар "Вясёлая ўдава", аперэта
**19** — У. Кандрусевіч "Шклянка вады", мюзікл
**20** — І. Кальман "Марыца", аперэта

## АФІША САКАВІКА

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**
**вул. Энгельса, 7,**
**тэл.227-17-17**

**14** — Ф. Дзюрэнмат "Ромул Вялікі", гістарычная недакладная камедыя
**15** — А. Астроўскі "Свае людзі — паладзім", трагікамічныя сцэны з жыцця глухамані
**16 (раніца)** — Далецкія, М. Чарот "Ажаніцца — не журыцца", беларускія вадэвілі
**16, 24** — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж" (прэм'ера)
**17** — Р. Горын "Памінальная малітва", камедыя паводле твораў Шолам-Алейхема
**19, 20** — Я. Купала "Тутэйшыя", трагікамічныя сцэны
**21** — А. Курэйчык "Згублены рай", драма (прэм'ера)
**22** М. Манохін "Парфін і Аляксандра", пастараль

**Малая сцэна**
**вул. Энгельса,12**

**15, 23**— Д. Хуан "Дом, дзе спяць прыгажуні", японская гісторыя
**22** — А. Папова "Муж для паэтэсы", камедыя-імправізацыя

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
**вул. Валадарскага,5,**
**тэл. 220-15-41, 220-39-66**

**Вялікая сцэна**

**14, 25** — Г. Гауптман "Перад заходам сонца", гісторыя дзіўнага кахання (прэм'ера)
**15, 29** — А. Папова "Сняданак на траве", трагікамедыя (прэм'ера)
**16** — Э. Томпсан "На залатым возеры", меладрама
**19** — А. Астроўскі "Ваўкі і авечкі", камедыя
**20** — М. Атар "Хто твой палюбоўнік, Жазефа?"
**21** — М. Эрдман "Тэрмінова патрабуецца... самазабойца"
**22** — Ж.-Ф. Рэн'яр "Адзіны спадкаемца"
**23** — А. Дудараў "Люці", меладраматычны дэтэктыў

**Малая сцэна**

**18** — Ф. Дастаеўскі, Э. Радзінскі "Рулетка"

**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-й, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
**вул. Крапоткіна, 44,**
**тэл. 234-60-08**

**14** — А. Курэйчык "Понцій Пілат", драма
**15** — З. Сагалаў "Палёты з анёлам", спектакль пра М. Шагала
**16** — В. Панін "Песні ваўка", музычна-пластычная элегія
**19** — М. Адамчык, М. Клімковіч "Чорны квадрат"
**20** — Х. Халер "Гульні багоў" (прэм'ера)
**21** — "Скарб. Нязломны рыцар" (польская драматургія на эксперыментальнай сцэне)
**22** — С. Кавалёў "Балада пра Бландо", сцэны нянавісці і кахання

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**
**вул. Даўмана,1,**
**тэл.289-32-62**

**14, 16** — Б. Шоу "Пігмаліён", раман
**20** — І. Зінгер "Тойбеле і яе дэман", трагікамедыя
**21** — Т. Уільямс "Трамвай "Жаданне"
**22** — У. Шэкспір "Жарсці ў Віндзоры", камедыя
**23** — Бамаршэ "Вар'яцкі дзень, або Вяселле Фігара"

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава,13,**
**тэл. 223-08-11**

**14** — Б. Шоу "Пігмаліён", музычная камедыя
**15** — "Айседора. Танец кахання"
**16** — Е. Міровіч "Тэатр купца Япішкіна", сатыра
**18, 19** — Л. Вернейль "Выкраданне Алены"
**20, 21** — А. Данілаў "Мы ідзём глядзець "Чапаева"
**22, 23** — А. Астроўскі "Таленты і прыхільнікі"

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Тэатр "Вольная сцэна"**
**Дом ветэранаў**
**(вул. Я. Купалы, 21)**

15 — Ф. Аляхновіч "Чорт і баба"

## АНОНС

# БЕТХОВЕН ПЛЮС...

**Тры месяцы таму ў сталічнай Зале камернай музыкі, што на Залатой Горцы, дэбютаваў інструментальны дуэт: малады скрыпач і дырыжор, прадаўжальнік знанай музычнай дынастыі Яўген Асновіч ды яго бацька, піяніст Барыс Спектар. "Адкрылі... Бетховена!" — так называўся водгук "ЛіМа" на іх першае філарманічнае выступленне (гл. нумар за 10.01.2002 г.). Дзіўная назва: што можна адкрыць у даўно ўжо хрэстаматыйнай спадчыне Л. ван Бетховена? Мелася на ўвазе адкрыццё не фармальнае, а творчае. І яно адбылося. Напат мае свой працяг. Для многіх меламанаў, якія ведаюць кампазіта-**



**ра-класіка найперш як аўтара папулярных фартэпіянных санат і сімфоній, сталася прыемным адкрыццём яго музыка для скрыпкі ды фартэпіяна. Санаты Бетховена, створаныя менавіта для такога інструментальнага складу, і прадставіў публіцы дуэт выканаўцаў, распачаўшы новы канцэртны цыкл.**

**Што да працягу — звярніце ўвагу на афішу: 17 сакавіка ў зале на Залатой Горцы адбудзецца другі канцэрт цыкла "Санаты Л. ван Бетховена для скрыпкі і фартэпіяна". Граюць Я. Асновіч ды Б. Спектар.**

**С. Б.**

**Фота П. ІВАНОВА**

## У СТАЛІЦЫ



**ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ**
**(пр. Ф. Скарыны, 44а)**

**14 — Канцэрт навучэнцаў** аддзялення фартэпіяна Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі.

**15 (а 16-й гадзіне) — Гучыць арган.** Інструментальная і харавая музыка эпохі барока ў транскрыпцыях для аргана К. Шарава. Саліст К. Шараў, музыказнаўца В. Савіцкая.

**17 — Санаты Л. ван Бетховена для скрыпкі і фартэпіяна.** Працяг канцэртнага цыкла. Выканаўцы Я. Асновіч (скрыпка) ды Б. Спектар (фартэпіяна). Музыказнаўца А. Ключнікава.

**21 — Арганны канцэрт.** Іграе Т. Шчэрба (Масква). У праграме І. С. Бах, Свелінк, Рэгер ды інш.

**ЦЭНТРАЛЬНЫ ДОМ АФІЦЭРАЎ**
**(вул. Чырвонаармейская, 3)**

**15 — Зоркі Маскоўскай аперэты** ў спектаклі "Сільва" на музыку І. Кальмана.

**ПАЛАЦ РЭСПУБЛІКІ**

**16 — двухразовы чэмпіён Еўропы і свету ансамбль спартыўнага танца** "Жуведра". Лепшыя танцавальныя пары Летувы ў захапляючым шоу — феерыі мастацтва і спорту з лацінаамерыканскімі рытмамі.

**КАНЦЭРТНАЯ ЗАЛА "МІНСК"**
**(вул. Кастрычніцкая, 5)**

**21 — Салісты Вялікага тэатра Расіі** ў оперы Д. Расіні "Севільскі цырульнік".

## АКЦЭНТ

# СРЭБРА ДЛЯ «РАГНЕДЫ»

Сёння ў Нацыянальным акадэмічным тэатры балета Беларусі — "Страсці" ("Рагнеда"). Спектакль В. Елізар'ева на музыку А. Мдзівані ўжо можна лічыць нашай класікай, бо не было за ўсю 70-гадовую гісторыю Беларускага балета твора, які зведаў бы такую шырокую вядомасць, меў бы столькі ўзнагарод і сусветнае прызнанне. Менавіта балет "Страсці" ("Рагнеда") за выдатную харэаграфію быў некалькі гадоў таму адзначаны міжнароднай прэміяй "Бенуа дэ ля данс" як лепшы твор у сваім жанры. А днямі друк паведаміў, што сцэна з гэтага спектакля адлюструецца на срэбнай манеце, якую мае намер выпусціць Нацыянальны банк Беларусі. Паведамляецца, што новая манета наміналам 100 рублёў будзе адметная сваімі памерамі ды вагой. Кожная "срэбная Рагнеда" змесціць у сабе 155,5 грама каштоўнага металу. А будзе такіх манет усяго 500. Большасць балетаманаў іх і не ўбачыць. Затое ў нумізматаў навінка абвострыць "паляўнічы азарт"!

**С. ВЕТКА**

*НА ЗДЫМКУ: сцэна з балета "Страсці" ("Рагнеда").*

**ФОТА В. СТРАЛКОЎСКАГА**

## ЦЫТАТА АФІШЫ



**ДРАМАТУРГ АЛЕНА ПАПОВА: "Я — чалавек жарсцяў, і драматургія для мяне — прафесія, якая звязана з жарсцю. Тэатр, які існуе ў маім уяўленні, і памкненне да яго — вялікая рухаючая сіла. Таму што я ведаю, якім пранізлівым можа быць гэтае мастацтва, які ўплыў яно можа мець. У нас, на жаль, неяк усё зрабілася звыштанным. Таму вельмі цяжка сур'ёзна займацца мастацтвам і знайсці аднадумцаў. Але я ніколі не займаюся марнымі шкадаваннямі, бо мне няма калі і яны непрадуктыўныя. Цану поспеху і нядачы я добра ведаю. І адношуся да гэтага дастаткова спакойна. Поспех — катэгорыя часавая..."**

**"Драматургія жарсцяў" "БДГ", 7 сакавіка 2003 года.**

*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Пестуны лёсу" паводле аднайменнай п'есы А. Паповай, з якой драматург перамагла на першым Еўрапейскім конкурсе драматургіі, што быў у Германіі.*





Выходзіць З 1932 ГОДА
У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Віктар ШНІП

Рэдакцыйная рада:
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Леанід ГАЛУБОВІЧ,
Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск,
вул. Захарава, 19
ТЭЛЕФОНЫ:
намеснік галоўнага рэдактара — 284-44-04
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-7965
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965
літаратурнага жыцця — 284-7965
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965
паэзіі і прозы — 284-7965
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-7965
карэктарская — 284-8091
бухгалтэрыя — 284-4991
Тэл./факс — 284-85-25

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1649
Нумар падпісаны ў друк 5.03.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 633

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12